Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 14 (4814) 10 красавіка 2015 г.

## Пасхальнае пасланне

**Мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, архіпастырам, пастырам, дыяканам, манахам і ўсім верным дзецям Беларускай Праваслаўнай Царквы**

Узлюбленыя ва Уваскрэслым Госпадзе Праасвяшчэнныя браты архіпастыры, пачэсныя прасвітары і дыяканы, набожныя інакі і інакіні, богалюбівая паства Беларускай Праваслаўнай Царквы, дарагія браты і сёстры!

З вялікай радасцю, сапраўдным лікаваннем і бязмернай удзячнасцю Госпаду нашаму Ісусу Хрысту сардэчна віншую ўсіх вас і вашых блізкіх са свяшчэнным і збаўчым святам — Пасхай Гасподняй.

Хрыстос уваскрэс!

Сёння ўся наша Царква Праваслаўная напоўнена пасхальнай радасцю і лікаваннем. Свята Пасхі, паводле слова свяціцеля Епіфанія, епіскапа Кіпрскага, — «галава і вяршыня ўсіх свят», яно для ўсяго свету — «урачыстасць абнаўлення і ўратавання».

У светлазарны дзень Пасхі Хрыстовай Царква ў сваіх свяшчэнных песнапеннях называе яе вялікай, той, якая дзверы райскія нам адкрывае, нядзеляй святой, Светлым Хрыстовым Уваскрэсеннем; заклікае зямлю і неба, свет бачны і нябачны святкаваць: «Бо паўстаў Хрыстос — радасць вечная» (трапар 1-й песні Пасхальнага канона).

Пасха — краевугольны камень хрысціянскага светапогляду. Пасха — знаменне ацалення чалавецтва і ачышчэння яго ад граху, гэта вяртанне да крыніцы любові і жыцця — Тварца і Госпада нашага. Уваскрэсеннем Хрыстовым змятаюцца ўсе перашкоды са шляху нашага спасення, да нас вяртаецца магчымасць стаць узлюбленымі дзецьмі Айца нашага Нябеснага. Уваскрэсеннем Хрыстовым грэх перастае панаваць над чалавекам, а смерць пазбаўляецца свайго смертаноснага джала.

Уваскрэслы Хрыстос Спасіцель стварыў Царкву Сваю і даў ёй асаблівую благадатную сілу Святога Духа, сілу, жыватворную для кожнага чалавека, які веруе ў Хрыста. Святая Царква садзейнічае праз Уваскрасенне Хрыстова стварэнню ў сэрцы кожнага чалавека Царства Божага, каб мы разам з апосталам Паўлам маглі ўсклікнуць: «ужо не я жыву, а жыве ўва мне Хрыстос».

Усе мы, дзеці Царквы Хрыстовай, атрымалі найвялікшы дар Божы — несці бліжнім і дальнім Добрую Вестку пра Уваскрэсенне Хрыстова і пра здзейсненае спасенне свету ад граху і смерці.

Пасха — гэта свята яднання. «Праца Царквы, — кажа Святейшы Патрыярх Кірыл, — будзе паспяховай роўна ў той меры, у якой яна зможа знайсці агульную мову са сваім народам.

Чытайце на стар. 2

ISSN 0024-4686



















Фота Кастуся Дробава

# На пяць крокаў бліжэй да святла



*Ордэн Рускай Праваслаўнай Царквы Мітрапаліту Філарэту.*

**Адразу пяць выставак, прысвечаных 80-годдзю Мітрапаліта Філарэта, Ганаровага Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, прадстаўлены ў Нацыянальным мастацкім музеі краіны.**

«Ікона — гэта больш, чым ілюстрацыя. Яна закліканая ўвасабляць у фарбах існасці багаслоўя, перадаваць чалавечаму свету энергію Божага царства. Безумоўна, самым арганічным месцам знаходжання іконы з'яўляецца храм. Але і ў музейнай прасторы яна нясе выхаваўчую і асветніцкую місію, бязгучна прапаведуючы Евангелле», — так было сказана ў прывітальным лісце Уладыкі Філарэта, які сам, на жаль, не змог наведаць вернісаж. Паводле яго глыбокага пераканання, «экспазіцыя ў музеі стала важнай часткай дыялогу царквы і беларускага культурнага асяроддзя, прасякнутага хрысціянскімі ідэаламі».

Першая выстаўка ўключае 37 праваслаўных абразоў XVII—XVIII стагоддзяў, якія прыбылі ў Беларусь з калекцыі Яраслаўскага мастацкага музея. Іканапіс Яраслаўля адрозніваецца відовішчнасцю, яркасцю, насычанасцю вобразаў. Мясцовыя майстры заўсёды імкнуліся перадаць атмасферу свята, шчодра ўпрыгожыць строі арнаментам, тонка пазначыць контуры золатам і срэбрам. Гэта ўсё невыпадкова, бо калісьці Яраслаўль быў багаты на храмы з шыкоўным роспісам і разьбянымі іканастасамі.

На другой выстаўцы «Хрысціянства і хрысціяне ў творчасці рускіх і беларускіх мастакоў сярэдзіны XIX — пачатку XX стагоддзя» можна ўбачыць жывапіс, скульптуру, іканапіс са збору Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Усяго — 29 твораў. У тым ліку — драўляныя скульптуры святых і анёлаў, якія літаральна ажываюць на вачах.

Жывапісныя творы грэчаскага мастака Аляксандра Каяса «На святым Афоне», якія сталі тэмай трэцяй выстаўкі, у Мінску з'явіліся ўпершыню, але добра вядомыя за мяжой. Лейтматыў творчасці аўтара — манаства, царкоўныя таінства, аскетызм, пошукі ўнутранай духоўнасці, зліццё з Богам у малітве. Карціны збольшага напісаны з натуры. Мастак адлюстроўвае манахаў вельмі эмацыянальна, аддаючы перавагу шырокім мазкам і мноству каляровых пераходаў. Ён дасягае амаль фантастычнага эфекту: карціны літаральна свецяцца! Майстар выкарыстоўвае пясок з гары Афон, змешвае яго з акрылам, імкнучыся да выразнай фактурнасці работ. Аляксандр Каяс неаднаразова ствараў і партрэты Мітрапаліта Філарэта — іх можна ўбачыць побач з іншымі карцінамі.

Калекцыя царкоўнага адзення з залаташвейнай майстэрні Дома міласэрнасці разам з творамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва сталі асновай чацвёртай выстаўкі. Царкоўна-гістарычны музей Беларускага экзархата перадаў для вернісажу ўнікальныя экспанаты: панагіі і нагрудныя крыжы, кіі і мітры Мітрапаліта Філарэта.

Завяршальным «акордам» юбілейнай экспазіцыі ў музеі стала філатэлічная выстаўка «Беларусь Праваслаўная», арганізаваная Міністэрствам сувязі і інфармацыі Беларусі і РУП «Белпошта».

Чытайце на стар. 2

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Пра час ды пра сябе



Барыс Савінаў — аўтар пяці кніг паэзіі, суаўтар пяці калектыўных зборнікаў. Піша таксама эсэ, кароткія апавяданні, мастацкія нарысы. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі і Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы. Больш як 10 гадоў адпрацаваў дырэктарам Бараўской сярэдняй школы Дзяржынскага раёна. Пра свой творчы набытак Барыс Фёдаравіч распавядае чытачам «ЛіМа».

— Родам я з Урала, з горада Карабаш Чалябінскай вобласці. Бацька працаваў юрыстам, маці — настаўніцай рускай мовы і літаратуры. Друкуюся з дзявятага класа, першыя спробы пяра — вершы і рэпартажы —змяшчаў у газеце «Карабашский рабочий». Падчас вучобы ў школе наведваў гурток аматараў паэзіі.

Пасля заканчэння сярэдняй школы мяне запрасілі ў мясцовую школу-інтэрнат выкладчыкам гісторыі, бо кваліфікаваных педагогаў бракавала. Праз некаторы час стаў літсупрацоўнікам газеты «Карабашский рабочий», дзе галоўным рэдактарам тады быў Герман Мазур. Затым паступіў у Свярдлоўскі горна-металургічны тэхнікум, па заканчэнні якога быў пераведзены на камсамольскую працу. Праз два гады прыехаў да родзічаў у Мінск і ўрэшце перабраўся ў Беларусь. Паступіў на філасофскае аддзяленне гістфака Белдзяржуніверсітэта, працаваў інструктарам райкама партыі. Жыў у Фаніпалі, цяпер — у Дзяржынску. Мае публіцыстычныя допісы друкаваліся ў такіх выданнях, як «Советская Белоруссия», «Сельская газета», «Краязнаўчая газета» і г. д.

**— Цікава даведацца пра Вашыя літаратурныя густы.**

— У 1950-я гады мінулага стагоддзя ў нас дома часта збіраліся настаўнікі, гучалі вершы, музыка, а я, маленькі, уважліва слухаў. Былі і сустрэчы з пісьменнікамі: Серафімай Уласавай, Міхаілам Аношкіным, а значна пазней, ужо ў Беларусі, — з Іванам Шамякіным, Максімам Танкам, Барысам Сачанкам, латвійскім паэтам і драматургам Валдзісам Руя, які прыбыў у Дзяржынск у складзе пісьменніцкай дэлегацыі… Заўсёды любіў паэзію, гістарычную літаратуру, захапляўся творчасцю Пушкіна. Першая прачытаная кніга паэзіі — сапраўдная сямейная рэліквія: «Братам-франтавікам», выдадзеная ў 1942-м у Казані. Сёння ў маёй бібліятэцы — дзве з паловай тысячы кніг, вельмі шмат падпісачных выданняў: Талстой, Паўстоўскі, Купрын… Вельмі люблю лірыку Андрэя Вазнясенскага. Не ўяўляю беларускай літаратуры без Васіля Быкава. Вяду слоўнік-цытатнік думак і выказванняў вялікіх людзей.

**— На якія тэмы пішаце?**

— Мяне вельмі хвалююць пытанні беларуска-расійскай інтэграцыі, дружбы народаў Беларусі і Расіі, памяці пра Вялікую Айчынную вайну. Чвэрць стагоддзя прысвяціў даследаванню сваёй радаслоўнай і ў выніку напісаў кнігу «Вытокі», прысвечаную маёй сям'і і прародзічам.

**— Над чым працуеце цяпер?**

— Над патрыятычнай лірыкай, вершамі пра час, пра сябе, пра каханне.

**Яна ЯВІЧ**

# «Сугучча»: зазірніце на старонку Туркменістана

На сайце *zviazda.by* Выдавецкага дома «Звязда» асобнае месца займае старонка «Літаратурны Туркменістан» (*www.sozvuchie.zviazda.by*).

Беларуска-туркменскія літаратурныя стасункі — адзін са складнікаў міжнароднай дзейнасці пісьменніцкай грамадскасці. Традыцыйна ў пасляваенныя дзесяцігоддзі перакладчыкі былі ўважлівыя да туркменскай літаратуры. Пра гэта сведчыць і тое, што на беларускай мове ў Мінску выйшлі кнігі Берды Кербабаева, Каюма Тангрыкуліева, Курбана Чаліева, Нуры Байрамава, Агагельды Аланазарава, анталогіі туркменскай паэзіі і прозы «Кветкі Каракумаў», «Мая Туркменія» ды іншыя выданні.

У апошнія гады ў літаратурна-мастацкіх часопісах былі надрукаваны вершы Агагельды Аланазарава, Керыма Курбанняпесава, Атамурада Атабаева. Іх перакладчыкі — Мікола Мятліцкі, Рагнед Малахоўскі. І ў фармаце «Сугучча» на сайце *www.sozvuchie.zviazda.by* даволі прадстаўніча выглядае туркменская тэматыка. Поруч з інфармацыяй пра кнігі туркменскіх аўтараў — артыкулы пра судакрананне беларускіх пісьменнікаў з Туркменістанам. Шырокім аглядам беларускай літаратурнай прысутнасці ў старажытным краі з'яўляецца нарыс «Сляды ў пустыні: беларускія пісьменнікі ў Туркменістане ў XIX — XX стагоддзях». Да ўвагі інтэрнэт-чытача — расповед пра Аляксандра Ходзьку, Аляксандра Пацалуеўскага, Аркадзя Марціновіча, Міхася Карпенку, Міколу Калінковіча, Васіля Ткачова, Любоў Філімонаву, Янку Сіпакова ды яшчэ шмат каго. «Вялікі Шоўкавы шлях: туркменскі след» — адкрыццё нашага суайчынніка, рускага празаіка Леаніда Чыгрына, які пэўную частку жыцця аддаў Каракумскай старонцы.

Ёсць і тэксты на туркменскай мове, што, несумненна, прыцягвае ўвагу наведвальнікаў з самога Туркменістана. Гэта і пераклад верша Ф. Скарыны на туркменскую (перакладчык — Агагельды Аланазараў). Сярод мадэратараў «Літаратурнага Туркменістана» — не толькі беларускі бок, але і пісьменнікі ды журналісты з Ашгабата: калектывы часопісаў «Каракум», «Сусветная літаратура», газеты «Эдэбіят ве сунгат» («Літаратура і мастацтва»).

**Сяргей ШЫЧКО**

# На пяць крокаў бліжэй да святла

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Падчас адкрыцця вернісажу міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч звярнула ўвагу на «ўнікальны выдавецкі праект» — альбом абразоў «Праваслаўны Свет» з выстаўкі, прысвечанай 1025-годдзю Хрышчэння Русі, што праходзіла пад амафорам Уладыкі Філарэта. Цытуючы Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку, Лілія Ананіч адзначыла, што «ва ўсе часы царква служыла веснікам надзеі, прапаведавала лепшыя традыцыі міласэрнасці, працавітасці і аддanасці радзіме, таму сёння яе аўтарытэт і вопыт запатрабаваны ў грамадстве».

«Мітрапаліт Філарэт стаў апосталам нашага часу, які даносіў да кожнага чалавека праўду Евангелля, вёў да Хрыста. Беларуская праваслаўная царква і ўвесь народ святкуюць яго юбілей. Каталіцкі касцёл таксама далучаецца да віншаванняў. Мы дзякуем Богу за гэтага пастыра, яго шчырасць, уменне весці дыялог, імкненне данесці да кожнага чалавека жывое і заўсёды актуальнае слова Божае», — сказаў, звяртаючыся да юбіляра, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі архіепіскап Тадэвуш Кандрусевіч.

Праграма супрацоўніцтва Беларускай праваслаўнай царквы і дзяржавы, у тым ліку і ў сферы культуры, працягвае дзейнічаць і развівацца. Выстаўка невераготнага маштабу і прыгажосці, арганізаваная з нагоды 80-годдзя Мітрапаліта Філарэта, толькі пацвярджае гэта.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Пасхальнае пасланне

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Таму што праблемы, якія перад намі стаяць, паасобку не змогуць вырашыць ні духавенства, ні свецкая ўлада, ні тая ці іншая палітычная партыя, ні той ці іншы паспяховы бізнесмен. Іх мы адолеем толькі разам».

На жаль, не ўсе мы сёння маем такую ісцінную і цвёрдую веру, здольную перамяніць наша асабістае жыццё і жыццё нашых бліжніх. Перамена жыцця ў Хрысце — гэта перамена ўзаемаадносін з самім сабой і з навакольным светам, перамена, здольная прывесці нас да паўнаты быцця. І свята Пасхі дапамагае нам адчуць тую Божую задуму пра нас, якая выяўляецца і ў гісторыі, і ў жыцці кожнага чалавека.

Праасвяшчэнныя архіпастыры, узлюбленыя айцы, браты і сёстры, віншую ўсіх вас са святам свят — Светлым Хрыстовым Уваскрэсеннем і малітоўна жадаю благадатнай дапамогі Божай у вашай адказнай грамадзянскай і царкоўнай працы на славу Святой Праваслаўнай Царквы і нашай зямной Бацькаўшчыны.

Няхай пасхальная ўрачыстасць заўсёды жыве ў душы кожнага з нас і жывіць яе, усяляючы ўпэўненасць і радасць аб Уваскрэслым Госпадзе нашым Ісусе Хрысце. Няхай гэтай бясконцай радасцю будзе насычана ўсё наша жыццё. Прымаючы стваральную любоў Спасіцеля, будзем дзяліцца ёю з тымі, хто пакутуе і церпіць нягоды, хто мае патрэбу ў спагадзе і простай чалавечай увазе, будзем дарыць усім людзям лікаванне ў Хрысце Уваскрэслым і радасць яднання з Ім.

ХРЫСТОС УВАСКРЭС!
САПРАЎДЫ ЎВАСКРЭС ХРЫСТОС!

**Павел,**
**Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі,**
**Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі**

# Прынятыя ў СПБ



**Алена Аляксандраўна МАЛЬЧЭЎСКАЯ**

*Секцыя дзіцячай літаратуры*

Нарадзілася 21 лютага 1988 года ў г. Лепелі Віцебскай вобласці. Скончыла Інстытут журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Працавала ў рэдакцыях часопісаў «Бярозка» і «Нёман», газеты «Літаратура і мастацтва». Цяпер — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Полымя», выкладчык кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ. Узнагароджана Прэміяй Беларускага прафсаюза работнікаў культуры ў сферы культуры (намінацыя «Літаратура і журналістыка», 2014). Аўтар кнігі казак «Ша-Ша з левага чаравіка» (2014).



**Уладзімір Максімавіч ТУЛІНАЎ**

*Секцыя публіцыстыкі*

Нарадзіўся 1 студзеня 1947 года ў г. Жытоміры (Украіна). Скончыў Жытомірскае Чырванасцяжнае радыётэхнічнае вучылішча і Ваенны інстытут замежных моў. Пенсіянер. Аўтар публіцыстычных кніг «Язык мой — друг мой. Беларусь. Двуязычие. За и против» (2011), «Победа — одна на всех» (2013), «За честь нации. Евреи против Гитлера» (2014) і зборніка вершаў «Розовый Пегас» (2013). Суаўтар калектыўнага зборніка прозы «Чистая правда и фантазия» (2014).

## Конкурсы

# Драматургі — юным гледачам

З нагоды 60-гадовага юбілею Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача абвяшчае конкурс «Новая назва» сярод драматургаў на лепшыя п'есы для дзяцей і падлеткаў.

Мэты творчага спаборніцтва — пошук новых драматургічных твораў з сучаснымі станоўчымі героямі, якія маглі б зацікавіць, уразіць і прывабіць гледача; заахвочванне айчынных аўтараў у напісанні п'ес для дзяцей і падлеткаў; спрыянне творчаму развіццю і вядомасці драматургаў.

На конкурс прымаюцца толькі новыя драматургічныя творы (не больш як два ад аднаго ўдзельніка), якія не ўвасабляліся ў прафесійных тэатрах альбо антрэпрызах, напісаныя на беларускай мове, прызначаныя для дзяцей і падлеткаў 5 — 16 гадоў і створаныя жывым аўтарам не пазней за 1 ліпеня 2015 года. Пераможцы (адно першае і адно другое месцы) будуць вызначаны ў трох намінацыях: лепшая п'еса для дзяцей ад 5 да 8 гадоў, лепшая п'еса для дзяцей ад 9 да 12 гадоў і лепшая п'еса для падлеткаў ад 13 да 16 гадоў. П'есы-пераможцы будуць пастаўлены на сцэне ТЮГа цягам двух-трох гадоў з дня заканчэння конкурсу.

Творы прымаюцца на конкурс толькі ў электронным выглядзе. Дасылайце іх на адрас *info@beltuz.by* альбо *beltuz@gmail.com* з паметай «На конкурс» ці перадавайце на электронным носьбіце (флэш-памяць, кампакт-дыск) у аргкамітэт конкурсу (220030, г. Мінск, вул. Энгельса, 26) з 10.00 да 17.00. Кожны аўтар указвае свой псеўданім (па жаданні), імя, прозвішча, год нараджэння, тэлефон, адрас, e-mail. Творы, дасланыя на конкурс, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Іх спіс публікуецца на сайце Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача.

Прыём конкурсных твораў ажыццяўляецца з 1 красавіка па 1 жніўня 2015 г., а разгляд — з 1 па 30 жніўня 2015 г. Вынікі конкурсу будуць абвешчаны ў верасні 2015 г.

Больш падрабязна пра конкурс можна даведацца на сайце Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача *www.beltuz.by* і па тэлефонах (017) 327-71-90, (029) 631-87-10.

**Арына КРАЙКО**

*Прэміі*

# Адзначаны за талент

**Прэзідыум Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі прысудзіў прэміі 2015 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці з наданнем звання лаўрэата, уручэннем Ганаровага знака, дыплома і грашовай узнагароды.**

Прэмію ў намінацыі «За творы прозы, паэзіі і драматургіі» атрымаў Фёдар Палачанін — за кнігі «Зранeнае сэрца: драматургія» і «Дарога ў неба: драматургія», апублікаваныя ў 2011 і 2014 гадах.

У наступнай намінацыі — «За музычныя творы, канцэртна-выканальніцкую дзейнасць» — прэмія прысуджана Нацыянальнаму акадэмічнаму народнаму аркестру Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча Беларускай дзяржаўнай ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга філармоніі (галоўны дырыжор Міхаіл Казінец) — за стварэнне тэтралогіі «Святое, незабыўнае …» (2010 — 2012).

За работы ў галіне тэатральнага мастацтва і кінамастацтва ўганараваны Уладзімір Мароз (аўтар сцэнарыя) і Яўген Сецько (кінарэжысёр) — за стварэнне дакументальнага фільма «Беларусь. 4 гады вайны» (2012); за творы жывапісу, скульптуры, графікі і прыкладнога мастацтва — Юрый Хілько, мастак-графік, загадчык кафедры графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў — за мастацкае афармленне і ілюстрацыі камплекта кніг Максіма Багдановіча «Раманс», «Пагоня» і «Слуцкія ткачыхі» (2011).

Пётр Атрошанка, старшыня пярвічнай арганізацыі прафсаюза РУП «Мінскэнерга» філіяла «Маладзечанскія электрычныя сеткі», і Іван Каваленка, дырэктар культурна-спартыўнага комплексу транспартнага РУП «Гомельскае аддзяленне Беларускай чыгункі», атрымалі прэмію за актыўную работу па развіцці народнага мастацтва і аматарскай творчасці працоўных.

За выдатныя дасягненні аматарскіх калектываў мастацкай творчасці ўзнагароджаны заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь «Скарбонка» філіяла Гомельскія цеплавыя сеткі РУП «Гомельэнерга» (мастацкі кіраўнік Міхаіл Грамыка).

У галіне журналістыкі прэміяй адзначаны Міхаіл Шубіч, намеснік рэдактара Баранавіцкай аб'яднанай газеты «Наш край» — за цыкл матэрыялаў пад рубрыкай «Сацыяльнае партнёрства. Патрыятызм і грамадзянскасць», апублікаваных ў газеце «Наш край» у 2011 — 2014 гг.

Грашовая ўзнагарода лаўрэатам індывідуальных прэмій Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі 2015 года ўстаноўлена ў памеры 15 мільёнаў рублёў кожнаму, калектыўных прэмій за музычныя творы, канцэртна-выканальніцкую дзейнасць і за выдатныя дасягненні аматарскіх калектываў мастацкай творчасці — 30 мільёнаў кожная.

**Бажэна СТРОК**

*Творчы свет*

# Гарбата, каханне і…

Цікавасць да творчых сем'яў для Дзяржаўнага мемарыяльнага музея Якуба Коласа — адна з традыцый. І гэтым разам у фокусе ўвагі апынулася творчая сям'я. Паэтэса Таццяна Шпартава, якая летась стала лаўрэатам ІІ Міжнароднага літаратурнага Цютчаўскага конкурсу «Мыслящий тростник», прадставіла два праекты, што неўзабаве будуць паказаны ў Калінінградзе.

Таццяна рэдка выступае са сваімі вершамі перад публікай, аддаючы перавагу прафесійным акцёрам. Адна з выканаўцаў яе твораў — дачка Аляксандра, актрыса і рэжысёр. Па вершах маці яна стварыла паэтычны монаспектакль «12 вершаў пра каханне». Аляксандра не толькі знайшла яго рэжысёрскае рашэнне, але і сама напісала музыку (па першым дыпломе яна музыкант).

У гасцёўні музея была прадстаўлена і зусім свежая, прэм'ерная, работа Аляксандры Шпартавай — эксперыментальны кароткаметражны фільм у жанры «паэтроніка» «Усмешкі за кубкам гарбаты». Гэта трэцяя па ліку аўтарская кінаработа Аляксандры (дзве папярэднія стужкі, дакументальныя — «Давыд-гарадоцкія каноны» і «Твар», — былі адзначаны прызамі на міжнародных кінафестывалях, у тым ліку і «Залатым Віцязем» за кінадэбют).

Фільм «Усмешкі за кубкам гарбаты» зняты па матывах аднайменнай паэтычнай кнігі Сэма Оклендa. Падборкі вершаў з гэтага зборніка ў перакладзе Таццяны Шпартавай раней друкаваліся ў часопісах «Всемирная литература» і «Нёман». Візуальный мовай для выказвання глыбокіх драматычных пачуццяў паэтычнай асновы рэжысёр абрала пластычную імправізацыю. Тут жа мы ўбачылі Аляксандру і ў якасці актрысы. А яе партнёрам выступіў Аляксандр Напорка — майстар кантактнай імправізацыі.

Запомнілася публіцы і віртуозная балада Фрыдэрыка Шапэна, выкананая на раялі братам Аляксандры Піліпам Шпартавым, якая арганічна спалучыла два паэтычныя блокі праграмы.

**Яна ЯВІЧ**

*Між іншым*

# Няўлоўныя плыні

Выстаўка Алены Вішняковай «Святло нястворанае» адкрылася 2 красавіка ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча. Першую частку экспазіцыі склалі творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — вышываныя рэчы для царкоўнага богаслужэння, у тым ліку чырвоны абрус і блакітныя закладкі ў Евангелле, упрыгожаныя пляшчотным бісерам і далікатнымі ўзорамі.

Працяг вернісажу — творы фармальнай камп'ютарнай графікі мастачкі. У іх раскрыўся прафесійны почырк Алены Вішняковай як архітэктара і графічнага дызайнера, які аддае перавагу лаканічным і дакладным формам. Адна з кампазіцый нагадвае літару «А» ў крышталі, другая — загадкавы вір, дзе пераплеліся планеты. Ці, можа, рукі? Незразумела. Трэцяя карціна ўвогуле выглядае як клеткі пад мікраскопам. Кожны, дарэчы, бачыць па-свойму.

На стварэнне ўсіх гэтых прац аўтара натхнялі вобразы святла, якімі прасякнуты тэксты Біблії, хрысціянская і народная культура.

«Царкоўнае ўбранне ўразіла мяне бляскам і пышнасцю. Аднойчы протаіерэй Аляксандр Шмеман, святар рускай замежнай праваслаўнай царквы, заначыў, што зіхаценне ў храме Божым — гэта водбліскі святла Царства Нябеснага. А яшчэ гэта вельмі падабаецца дзецям, прыцягвае іх у царкву», — распавяла Алена Вішнякова.

На думку мастачкі, святло мае няўлоўную прыроду і нясе людзям вялікую таямніцу. «Першабытнае святло не залежала ад знаёмых нам нябесных свяцілаў, яно было падобна хутчэй да загадкавага паўночнага ззяння. Святло можна параўнаць з электрамагнітнай хваляй, згусткам энергіі, плынню часцінак. У адзін момант святло пачынаецца, потым дасягае кульмінацыйнага бляску, згасае, амаль што знікае», — дадала Алена Вішнякова. Менавіта гэтыя ўласцівасці святла, яго рухомасць і зменлівасць, можна назваць лейтматывам яе карцін. Творца выбрала эпіграфам да выстаўкі словы з першай кнігі Маісея «Быццё»: «Спачатку стварыў Бог неба і зямлю». Чаму так? Напэўна, адсутнасць людзей і якіх-небудзь адушаўлёных істот на карцінах мастачкі дае нагоду думаць, што на іх адлюстраваны пачатак стварэння свету.

Якім чынам выстаўка з такім рэлігійна-філасофскім кантэкстам патрапіла менавіта ў музей Максіма Багдановіча? Яго загадчык, Марына Запартыка, патлумачыла, што паэт быў верны хрысціянскім прынцыпам. Ды і ў творах яго шмат святла і магутнай энергетыкі.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Дзіцячы тыдзень

Мінская дзіцячая бібліятэка № 6 імя Васіля Віткі традыцыйна бярэ ўдзел у Тыдні дзіцячай кнігі, засяроджваючы ўвагу чытачоў на творчасці сучасных айчынных пісьменнікаў.

На працягу Тыдня тут ладзяцца сустрэчы з беларускімі аўтарамі, праводзяцца тэатралізаваныя прагляды навінак дзіцячай літаратуры і літаратурныя віктарыны. Сёлета ганаровым госцем свята стаў паэт і перакладчык Уладзімір Мазго, які пазнаёміў чытачоў кніжніцы з уласнымі перакладамі казак народаў Аўстраліі і казак Андэрсена, а таксама прэзентаваў новую кнігу.

Нечаканым падарункам гасцям сустрэчы сталі песні на словы Уладзіміра Мінавіча і спектакль лялечнага тэатра «Пацешка» паводле казкі У. Мазго «Лясная аптэка».

**Кацярына БУЗОЎКІНА**

# Шляхамі шчырасці

Творчая сустрэча з членам Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэтам, празаікам, публіцыстам, галоўным дырэктарам радыё «Беларусь» Навумам Гальпяровічам адбылася ў літаратурным клубе «Шчырасць» пры сталічнай публічнай бібліятэцы № 22.

З-пад пяра Н. Гальпяровіча выйшлі паэтычныя зборнікі «Сцяжына», «Каласы роднай мовы», «Брама», «Востраў душы» і г. д. Падчас вечарыны можна было пазнаёміцца з выстаўкай «Мой шлях памысны і высокі, бо ў родным краі гэты шлях...», падрыхтаванай супрацоўнікамі кніжніцы.

Цёплыя словы ў адрас творцы выказаў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення саюза пісьменнікаў Беларусі, кіраўнік клуба «Шчырасць» Міхась Пазнякоў. Навума Якаўлевіча ён прадставіў публіцы як чалавека з узнёслай душой, майстра сваёй справы.

Словы шчырай падзякі прагучалі з вуснаў збіральніцы фальклорных свят і абрадаў, чытачкі бібліятэкі і сябра «Шчырасці» Яніны Ермаловіч, якая прадэкламавала некалькі вершаў Навума Якаўлевіча. Завітала на імпрэзу і настаўніца пачатковых класаў сталічнай СШ № 161 Людміла Кебікава.

Навум Якаўлевіч распавёў пра літаратурную дзейнасць, прадставіў гледачам уласныя творы. Песні на яго вершы прагучалі ў выкананні барда і кампазітара, кіраўніка Клуба аўтарскай песні БДУ Аляксея Нежаўца. Публіка задала пісьменніку шмат розных пытанняў, а за найбольш цікавыя атрымала ў падарунак кнігі з аўтографам.

**Наталля ЯРАШЭВІЧ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**14 красавіка** — *у клуб творчых жанчын «Спадарыня» на святочную гасцёўню «Тры Вольгі», у межах якой будзе прадстаўлена творчасць трох паэтэс — Вольгі Сакаловай, Вольгі Шпакевіч і Вольгі Норынай. Імпрэза пройдзе ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**14 красавіка** — *на творчы вечар кампазітара Аліны Безенсон, прысвечаны памяці паэтэсы Наталлі Іллюшынай. Мерапрыемства адбудзецца ў канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі (пр. Незалежнасці, 50). Уваход па білетах. Пачатак а 19-й гадзіне.*

**15 красавіка** — *на творчую сустрэчу з паэтам, публіцыстам і журналістам Навумам Гальпяровічам. Імпрэза пройдзе на прадпрыемстве «Святлопрыбор» (вул. Якубоўскага, 52). Пачатак у 13.30.*

**15 красавіка** — *на «круглы стол» «Роля літаратуры ў ваенна-патрыятычным выхаванні моладзі». Мерапрыемства адбудзецца ў Цэнтральнай бібліятэцы Цэнтральнага дома афіцэраў (вул. Чырвонаармейская, 3). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**15 красавіка** — *на літаратурна-музычнае свята «Гэта наша з табой Перамога» ў Цэнтры нацыянальных культур (вул. Чычэрына, 19). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**16 красавіка** — *на пасяджэнне студыі мастацкага чытання «Вобраз», якое пройдзе ў СШ № 23 (вул. П. Панчанкі, 56). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**16 красавіка** — *на творчую сустрэчу з паэтамі Міхасём Пазняковым і Валянцінай Паліканінай у Цэнтральнай Бярэзінскай раённай бібліятэцы (вул. Камсамольская, 27). Пачатак а 14-й гадзіне.*

Пісьменнікі Берасцейшчыны выказваюць шчырыя спачуванні намесніку старшыні Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Любові Мікалаеўне КРАСЕЎСКАЙ з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці БАЦЬКІ.

Валянціна ГІРУЦЬ-РУСАКЕВІЧ



## Вёсцы

*«Жыві!» — шапчу, як заклінанне,
Хапаючыся за надзею,
Што вёска ажыве, паўстане!
Ды ўсё яна не маладзее...
І, заціхаючы, сумуе,
Травой няскошанаю плача.
Вяртаюся ў пару былую,
А будучыні тут не бачна...*

*Амаль няма каму расіцу
Збіваць з палеткаў утравелых.
І ёй, як мне, больш толькі сніцца
Пракос, пракладзены умела
Рукой напрацаванай, дужай,
Пах сена свежага мядовы...
Мы пра сустрэчу марым, дружа,
Сустрэнемся ж — і комам словы
Нясцерпнай гаркаты ў горле:
Былыя «зношаны» абновы,
Ажно сціскае сэрца болем.*

*Як птушкі з роднага гняздоўя,
Зляцелі дзеці-птушаняты...
Яна ж, з матулінай любоўю,
Чакае: вернуцца дахаты,
Не ў госці, а гаспадарамі!
І з той надзеяю нясмелай
Глядзіць усё на шлях вачамі
Хацін сваіх асірацелых.*

*Даруй мне, вёсачка-матуля,
За ўсіх тваіх няўдзячных дзетак.
Бывае, пэўна ж, ім няўтульна,
Як мне, што кінулі свой светлы
Куток, маленькую радзіму...
І толькі пераважна ў святы
Лятуць у родныя гняздоўі,
Туды, дзе юная крылатасць
Іх ацяплялася любоўю,*

*Туды, дзе гэтак іх чакаюць
І людзі родныя, і сцежкі —
Уся радзімачка малая —
Лагоднай сонечнай усмешкай.
«Жыві!» — шапчу, як заклінанне,
Хапаючыся за надзею,
Што вёска ажыве, паўстане!
Але яна не маладзее...*

***

*Вузельчыкі на нітцы часу:
Народзіны, юнацтва, сталасць…
Шмат, падавалася, ў запасе,
Ды аказалася — так мала…*

*Вузельчыкі перабіраю,
І ў памяці-калейдаскопе
Усё зноў ярка ажывае…
Але журыцца —
хопіць, хопіць!*

*Вузельчык радасці над сумам
Няхай завяжацца трывала,
Каб, колькі ні набегла ў суме,
Быць не старой,
а мудра-сталай.*

***

*Багіня ясная Зары Світальнай
Была мне апякункаю лагоднай.
Калі ж так паспяшаліся-расталі
Пяшчотных юных вёсен карагоды
І лета жнівеньскаю ночкай знікла,
Апошняю, у туманах халодных,
І гусі-лебедзі растайна памахалі
Ды з крылаў скінулі на косы бела пер'е,
Усё часцей мне хочацца паклікаць
Цябе, шаноўная багіня Ніка.
Бо многа так хацелася б асіліць
І ў перамогу верыць, верыць, верыць!
А вечара прытомленай часінай
Маўкліва размаўляю з Мнемасінай...*

***

*Ці так, ці так, ці так? — гадзіннік
Дапытвае няўмольна строга...
Далёка ўжо за палавіну
Зайшла жыццёвая дарога.*

*Ці так па ёй ішлая ўпарта,
Ці тыя словы ўсе і справы?
Ці так, ці так, ці так?..
Ці варта
Павагі ад людзей і славы?*

*Пра славу... Не, яе не трэба,
Не ў ёй усё ж, напэўна, шчасце.
Была б павага і патрэба
Жыць для людзей
з душою насцеж.*

*Ці так, ці так?..
Сама не знаю:
Відаць, напэўна, лепей людзям.
А варта пекла або раю —
Судзіць Усявышні
толькі будзе.*



Фота Кастуся Дробава

Васіль МАКАРЭВІЧ



Калі некалькі гадоў таму я прыйшоў у рэдакцыю літаратурна-драматычных праграм на Беларускае радыё, там пазнаёміўся з Міколам Гірыловічам, тэхнічным майстрам, які цудам застаўся жыць у вайну пасля таго, як карнікі спалілі яго родную Дальву і жыхароў. Ён скупа расказваў пра трагедыю вёскі, у выніку чаго і з'явілася паэма.

**Аўтар**

## Рэквіем Дальвы

Міколу Гірыловічу

1

*Дзень з травы
Не ўзляціць, як з сіла.
Ціша вочы сцярожкія звузіла.
Дзе той провад, што бег ля сяла
Тэлефоннай варожаю
Сувяззю?*

*Провад
Карнікаў мог аклікаць
Гневам фюрара з сілай уладнаю,
Што пушчанскі Палік, нібы кадзь,
Абручамі сціскалі
Блакаднымі.*

*Не гадайце,
Хто рату адбыў
І за рысу нябыту аддалены, —
Провад кім перасечаны быў:
Партызанскаю помстай
Ці Дальваю?*

*Бегучы
Праз грымоты і дым
Да задухі, з блакаднай аблогаю,
Спатыкнуўся у провадзе тым
Голас грозны з берлінскага
Логава.*

*Крук, не енчы
Са здзеклівым злом,
Што трывогай паднеб'е агортвае.
Завязаўся той провад вузлом
І — шнуром стаў гарачым
Бікфордавым.*

*Зберагчы
Хто сяло гэта мог,
Калі з тонкага рванага кончыка,
Як матыль, закруціўся дымок,
Бы з іголкі, з сярнічкі
Саскочыўшы?*

*Хоць са снегам
Кладуцца лядні,
Хіба дол хоць зімой ахаладае?!
Бы ў віры, у пякельным агні
Гул звуглелы кружыўся
Калодаю.*

*З немым крыкам
Жанчын ды дзяцей,
Ля пажухлага шэрага поплава,
Пад нябёсы пажар узляцеў
І асыпаўся прыскам
Ды попелам.*

*Ні кала,
Ні вугла,
Ні пчалы!
Толькі немую заціш пужаючы,
З дратаванкай падпаска малы,
Нібы прывід, хадзіў
Ля пажарышча.*

*Хіба ўяваю
Можна дапяць,
Як да брамы звуглелага ліпеня
Выйшлі ў чорным адзенні да пят,
Бы манашкі, бярэзіны
З ліпамі.*

*Разматаўшы
Шляхі, што бінты,
Кіламетрамі з роспачнай далечы
Скрозь каціліся грозна франты,
Хлапчука-пастушка
Абдымаючы.*

*Не, не горш
За паўдня-каваля
Клопат пільны у травах запарыўся.
Ад счарнелага ў чадзе камля
Усё ж прабіўся, праразаўся
Парастак.*

2

*Адчую боль пад ключыцай.
Як гарам, пацягне з лога.
Знайсці б мне і падключыцца
Да провада тонкага, злога.*

*Зноў далеч гадоў заные,
Дыхне, як з нямой амбразуры.
Чмяля ў быльнягу пазыўныя —
Нібыта па рацыі зумер.*

*Калосіцца сталасці гоні.
Стагоддзя вышэе званіца.
Хто там спрабуе сягоння
Ў былыя часы дазваніцца?*

*Можа, пад млосным вецем,
З дакладаў прамой дастаўкай,
Дагэтуль тут провад віецца
Прама ў Берлін, да стаўкі?*

*Голас варожы гаркне
На мове Канта і Гегеля.
А мо на асмалку-агарку
Варона каркне нягеглая?*

*Магчыма, яна прыгадвае
Старою памяццю хвораю
Паміж дымоў з прагаламі
Вайны франтавое ворыва?*

*Ядраным ранкам ззалелым
Узблісне маланкі ўсмешка.
Хоць з гулам прайшла залева,
Ці ўсе заліла галавешкі?*

*Знайшлі мы на зло ўправу.
Дабро нас цяплом абагрэла.
Налева ляжыць і направа
Былы мацярык абгарэлы.*

*А можа, засыпала памяць
Сумётамі прыску сівога?
Былое няшчадна паліць,
Глядзіць невідушчай савою.*

*Хмаркі ў нябёсах развешаны.
Грай, забыццё, на дудцы!
Па провадзе мо па-ранейшаму
Загады снуюць і прадуцца?*

*Фыркаць пачне ды мыцца
Ранак, драздоў пужаючы.
У чуйнай душы дыміцца,
Не гасне ніяк пажарышча.*

*Над канюшынай і цяглікай
Лета наладзіць провады.
Шнуром жураўліным цягнецца
Праз годы той прывід провада.*

*А згадка з дзіцячым ускрыкам
Сноўдае ў даўнішняй копаці.
Бліскаўка пырхне іскрынкай
І сэрца птушкай усхопіцца,*

*Да памяці ўраз падключыцца.
А каля жоўтай сланечыны
Провад, напэўна, курчыцца,
Сякерай лясной перасечаны.*

3

*Пад вольхамі і пад бярозамі,
Дзе часта жыруюць качары,
Мы ўдвух па аблозе поўзаем,
Рукамі былое шукаючы.*

*Мінулае, даўняе, скрытнае
Праражацца глінай карычневай.
Нас птаха аглушыць скрыдламі,
Рвануўшы з травы паклычанай.*

*З каменнымі шэрымі гурбамі,
З сівым валуном-бульдогам
Глядзім ёй услед разгублена,
Праводзячы позіркам доўгім.*

*А побач з агаркам ад крынкі
З малітваю спавядальнаю
Заходзіцца ў роспачным крыку
Гранітнымі плітамі Дальва.*

Алёна БЕЛАНОЖКА

# Маладзік па небе ходзіць



Караблі гінулі бязгучна: у вакууме не бывае гукаў. Яны проста ўспыхвалі, на імгненне ператваралiся ў прамяністыя зоркі і назаўсёды знікалі ў цёмнай прасторы Сусвету.

Караблі ведалі, што ідуць на смерць. Яны былі ваеннымі караблямі; яны з'явіліся на свет не для таго, каб пакрыцца ржой у доках касмічных заводаў, не за тым, каб зрабіцца музеямі мінулай славы ці бясслаўя. Караблі нараджаліся, каб перамагаць — і зноў ляцець наперад, на новага ворага, і знішчаць яго — або быць знішчанымі ім.

Той, хто лёгка ідзе на смерць, шчодра сее яе наўкол. У людзей гэта называецца гераізмам, у караблёў — прызначэннем. Караблі ведалі, што нясуць смерць. Так было наканавана.

Караблі ўмелі быць вернымі сваім экіпажам. Яны выносілі людзей з такога пекла, што тыя пачыналі верыць у цуд і складалі пра караблі легенды.

Калі ж адзін за адным гінулі тыя, каго неслі караблі ў сваіх бліскучых чэравах — ад камандзіраў, што трымалі штурвалы і вялі судны наперад, да тэхнікаў, якія наладжвалі работу сістэм, — караблі ўзрывалі сябе. Не здавацца ў палон, не апынуцца трафеем ворага — лепш смерць!

Карабель плыў па Сусвеце зусім адзін. Ён не ведаў, ці доўга дрэйфуе: на борце выйшаў са строю гадзіннік, і час спыніўся. У адкрытым космасе, дзе не ўзыходзяць сонцы ў ілюмінатарах, дзе маладзікі не змяняюцца поўнямі, не падаюць сігналаў спадарожнікі, няма не толькі гукаў — там не існуе часу, бо яго няма чым вымяраць.

Карабель быў яшчэ жывы. Яго сэрца — вялікі крышталь, перпетуум мобіле — магло выпраменьваць энергію вечна. Аднак карабель выключыў усе агні і прымусіў сваё сэрца заснуць. Цяпер яно не палымнела, а тлела глыбока пад абшыўкай, пакуль карабель прымаў рашэнне.

Карабель памятаў, як загінуў яго экіпаж. Спачатку камандзір — самым першым. Ён рассыпаўся на атамы пад шчыльным праменем зялёнага варожага святла. Потым два тэхнікі — падчас пажару, калі наладжвалі сістэмы тушэння агню: ім удалося згасіць полымя, аднак калі ў адсеку пайшоў дождж, здарылася кароткае замыканне, і моцны разрад электрычнасці адправіў абодвух на той свет. Пасля пакінула карабель штурман — яе выцягнула ў адкрыты космас праз прабіты бок рубкі. Рубка была задраена, таму астатнія адсекі не разгерметызаваліся, і людзі, калі б хто з іх застаўся ў жывых, маглі б яшчэ выратавацца. Але людзей у жывых не засталося. Яны выратавалі карабель і спапялілі ворага, але загінулі самі. У гэтай бойцы не засталося пераможцаў.

Аднак карабель не мог аддаць каманду на самазнішчэнне: на борце яшчэ заставаўся Нумар Пяць.

У жаночай каюце, на тумбачцы каля ложка, у прыгожым белым гаршчэчку на магнітах, цвіла пеларгонія — тая самая, якую капітан падарыў штурману на дзень нараджэння. Штурман назвала кветку «Нумар Пяць», таму што тая была пятым, неафіцыйным, «членам экіпажа» на борце.

Пеларгонія была жывая. Яна дыхала, вельмі баялася холаду і смерці. Калі пачалася бойка, пеларгонія крычала ад жаху, і карабель чуў яе крык, які не чулі людзі.

Для карабля кветка таксама была членам каманды. Раней ён ніколі не размаўляў з кветкамі, але зараз яму трэба было ад каго-небудзь атрымліваць загады. Ён быў добрым салдатам і выдатна ведаў іерархію: той, каго сабралі на канвееры, павінен служыць тым, у каго ўдыхнула жыццё прырода, — і ніяк не наадварот. Нават калі ты звышінтэлектуальны карабель, у метал твайго корпуса ўплаўленыя ланцужкі ДНК, ты ўмееш чытаць думкі і вырашаць звышскладаныя задачы, усё роўна ты — другасны пасля той істоты, што самастойна вырасла з адной клеткі, явіўшы свету не перамогу тэхналогій, а цуд жыцця.

Трэба было вырашаць, што рабіць далей. Проста плыць па космасе было небяспечна.

Пяты нумар маўчаў.

І тады ўпершыню карабель сам звярнуўся да старэйшага па званні.

— Якія будуць загады? — спытаўся ён.

Кветка дрыжала. Яна не думала, што карабель звяртаецца да яе, ёй было страшна, халодна, цёмна і вельмі адзінока. А яшчэ яна вельмі хацела піць.

— Якія будуць загады? — паўтарыў карабель і дадаў: — Нумар Пяць, вы мяне чуеце?

Кветка вельмі ганарылася тым, што ў яе ёсць асабісты нумар, бо далёка не кожная расліна можа гэтым пахваліцца. Таму, пачуўшы, што да яе звярнуліся, пеларгонія прыўзняла лісткі:

— Я Нумар Пяць, я чую вас!

— Якія будуць загады, Нумар Пяць? — спытаўся карабель яшчэ раз.

Кветка ніколі ў жыцці не аддавала загады і наўрад ці адважылася б на гэта, аднак смага перамагла.

— Я хачу піць… — прашаптала пеларгонія.

— Паўтарыце запыт! — звярнуўся карабель да кветкі; у яго кампетэнцыю не ўваходзілі сведкі пра тое, што п'юць расліны.

— Вады! — прашаптала Нумар Пяць.

Карабель уключыў сістэму пажаратушэння ў адсеку. Са столі пырснуў дожджык, і кветка радасна расправіла пялёсткі, прымаючы ў іх празрыстыя кроплі вады. Вада расцяклася па падлозе, па фотаздымках, што віселі на сценах, па аркушах дзённіка, які вяла штурман.

— Дзякуй. Дзякуй! — сказала кветка, калі наталіла смагу.

Карабель перакрыў ваду.

— А цяпер запаліце, калі ласка, святло — я баюся цемры! — папрасіла пеларгонія.

Карабель даў свайму вечнаму сэрцу каманду на абуджэнне. Яно шчоўкнула, ледзьве чутна загуло і заззяла мяккім блакітам. У каюце над кветкай успыхнула святло.

Нумар Пяць убачыла мокры нататнік, пакрыты чарнільнымі плямамі, і фотаздымкі, на якіх цяпер немагчыма было разабраць твараў.

— Што ж мы нарабілі! Мы знішчылі памяць… — сумна сказала кветка.

— Памяць у парадку, сістэмы не пашкоджаныя, — адказаў карабель.

— Ах, вы нічога не разумееце… — уздыхнула кветка. — Не віртуальную памяць… А рэчы і словы, якія нагадваюць пра падзеі…

— Рэчавыя доказы, — сказаў карабель.

— Доказы…

Кветка змоўкла.

Сэрца карабля выпраменьвала энергію. Ён чакаў новых загадаў. Ён ірваўся ў новы бой.

Вакол шчэрылася цемрай міжзорная пустыня, усыпаная бледнымі пясчынкамі далёкіх галактык. Недзе сярод іх зіхацела тая, адкуль былі родам карабель і Нумар Пяць — недзе вельмі-вельмі далёка. Падчас апошняга бою карабель выштурхнула ў незнаёмы сектар касмічнай прасторы, і, каб знайсці родную галактыку, спатрэбілася б нямала высілкаў.

Кветку не цікавілі зоркі і галактыкі, яна нічога ў іх не разумела.

— Вы сумуеце па людзях? — спыталася яна.

Карабель не ўмеў сумаваць. Ён умеў слухацца, атакаваць і абараняць.

— Паўтарыце пытанне.

Кветка ўздыхнула.

— Я сумую па іх. Яны ўмеюць усміхацца. Яны ўмеюць спяваць. Сумую па голасе… Галасы людзей дорыць надзею. Я так хачу зноў пачуць іх галасы!

Карабель крыху падумаў і ўключыў па канале гучнай сувязі запіс бартавых перамоў членаў экіпажа.

…Мужчыны жартавалі, смяяліся. Штурман спявала дзіцячую песню-лічылку:

*Маладзік па небе ходзіць,*
*Зоркі за сабою водзіць,*
*Хто схавацца не паспеў,*
*Той, як зорачка, згарэў!*
*Раз-два-тры, чатыры, пяць,*
*Я іду шукаць!*

Ніхто з іх не збіраўся паміраць. Гэта быў лепшы экіпаж флоту! Яны ляцелі па перамогу!

А на эмблеме карабля зіхацеў маладзік, за якім выстраіліся ў шэраг чатыры дзясяткі зорачак — па зорачцы за кожны збіты варожы борт. Ён быў не проста караблём — ён быў караблём-легендай!

Раптам, зусім нечакана для сябе, карабель захацеў вярнуцца дадому і расказаць усім, як гераічна каманда змагалася і загінула. Ён захацеў зноў стаць у строй, адпомсціць за свой экіпаж і выгадаваць новых герояў.

А кветка, пачуўшы знаёмыя галасы, заплакала.

— Адвязіце мяне да людзей, — папрасіла яна. — Да жывых людзей…

Карабель уключыў лакатары, разгарнуў і выпрастаў усе антэны, адкрыў зорныя карты і пачаў сканіраваць прастору. Ён атрымаў загад і шукаў у космасе борт або планету з людзьмі.

І ён знайшоў яе — тую самую, што была месцам яго нараджэння.

Карабель змог вызначыць каардынаты свайго знаходжання і сарыентавацца ў прасторы. Ён змог бы сабой ганарыцца, калі б умеў! Цяпер ён ведаў, куды ляцець. І ведаў, навошта.

— Рыхтуюся да гіперскачка, — папярэдзіў карабель.

— І я рыхтуюся, — сказала кветка. Яна разумела, што будзе балюча, але была згодная патрываць, каб толькі хутчэй выбрацца з гэтага бяздоннага, пустога, чорнага космасу. Нумар Пяць затрымала дыханне…

Карабель пракалоў прастору і ўвайшоў у населеную зорную сістэму. Яна была такая знаёмая, утульная, абжытая, поўная касмічных станцый і радыёсігналаў! Па адной з арбіт у поясе жыцця лятала планета, у доках якой і быў сабраны карабель. Планета была невялікая, рудая, з белай шапачкай лёду на полюсе — прыгожая, як дзяўчынка. На ёй жылі людзі. Але ўсё гэта — спадарожнікі, станцыі, сігналы і людзі — было, як за шчытом, надзейна схавана за шырокім воблакам астэроідаў і камет.

— Увага! Наперадзе — пояс астэроідаў. Паўтараю: наперадзе — пояс астэроідаў. Падрыхтавацца да манеўраў! — абвясціў карабель і бясстрашна нырнуў у каламесу каменных абломкаў.

Карабель спяшаўся выканаць загад. Ён лавіраваў паміж камянёў, танцаваў, ухіляўся ад іх вострых краёў. З кветкі абсыпаліся пырскі вады.

Раптам пачуўся глухі ўдар і трэск парванай абшыўкі. З прабоіны на кветку дыхнуў ледзяны Сусвет. Нумар Пяць вохнула ад рэзкага болю.

Карабель выйшаў з пояса астэроідаў.

— Планета па курсе, — абвясціў ён. — Дазвольце перайсці ў дрэйф. Нумар Пяць, чакаю загад.

Кветка маўчала.

— Нумар Пяць, чакаю загад, — паўтарыў карабель.

Нумар Пяць не адгукалася.

— Разгерметызацыя адсека, — абвясціла сістэма бяспекі.

Карабель насцярожыўся і актывізаваў сістэму распазнавання жыцця. Сістэма паказала адсутнасць жывых арганізмаў на борце: космас, які ўварваўся ў каюту штурмана,ператварыў пеларгонію ў крохкі лёд.

Карабель вельмі хацеў вярнуцца да людзей. Але, апроч сябе, цяпер яму не было каго вяртаць, а вяртацца аднаму было забаронена — гэта ганьба для любога салдата.

І карабель аддаў каманду «Самазнішчэнне».

Потым яшчэ раз. І яшчэ. І зноў.

Сэрца карабля не ўзрывалася. Астэроід не проста ўскрыў абшыўку — ён пашкодзіў сістэму самаліквідацыі, і на борце не было нікога, хто б мог яе наладзіць.

Карабель знайшоў выйсце. Ён яшчэ мог накіравацца да зоркі і згарэць на падлёце да яе, а мог упасці на адну з ненаселеных планет або сутыкнуцца з астэроідам, каб ад удару рассыпацца на маленькія кавалачкі. Але карабель вельмі хацеў зноў вярнуцца дадому, на сваю маленькую рудую планету… і выбраў для сустрэчы пустынную мясцовасць на яе паверхні, дзе ніколі не жылі людзі.

Побач праляталі спадарожнікі, эфір напаўняўся гукамі, музыкай, галасамі, пазыўнымі пасажырскіх і грузавых караблёў. Карабель набліжаўся да планеты, дзе яго даўно лічылі страчаным назаўсёды. Ён купаўся ў радыёхвалях і зноў, як многа разоў дагэтуль, радаваўся свайму вяртанню, хоць гэтым разам яно і было для яго апошнім.

Карабель увайшоў у атмасферу планеты. Яму стала цёпла — ці ад таго, што ён вярнуўся дадому, ці таму, што супраціўленне паветра распаляла яго абшыўку — ён не ведаў. Ён ужо быў гатовы сустрэцца з зямлёй і з гонарам прыняць смерць, але раптам сістэма бяспекі залямантавала:

— Прама па курсе — чалавек! Прама па курсе — чалавек!

Далёка ўнізе, на самым дне атмасфернага акіяна, у той кропцы, куды падаў карабель, знаходзіўся чалавек.

Карабель пачаў тармажэнне і спыніўся за некалькі метраў ад паверхні планеты — проста над чалавекам.

Гэта была маленькая дзяўчынка. Яна збірала кветкі сярод вялікага зялёнага поля. Карабель завіс над ёй, як гіганцкая залатапёрая птушка.

Дзяўчынка падняла галаву і шырока раскрыла вочы:

— Ого! Я падумала, што гэта воблака закрыла мне сонейка, а гэта зусім не воблака! Хто ты?

— Борт В-114, ваенны знішчальнік-перахватчык, пазыўны «Маладзік», — прадставіўся карабель.

— Нічога сабе! Той самы «Маладзік»? Ты не маніш?

Ад карабля патыхала гарачынёй, ён хоць і быў крыху пакамечаны ды з дзвюма прабоінамі па баках, але выглядаў вельмі салідна.

Дзяўчынка пералічыла зорачкі на борце карабля:

— Сорак!

— Трэба дадаць яшчэ тры, — заўважыў карабель.

Дзяўчынка пляснула ў ладкі:

— Ты ж увесь пабіты! Паглядзела б я на пілота, які вырабляў з табой такія штукі!

— Экіпаж загінуў, — паведаміў карабель.

— Ты вярнуўся дадому адзін? — дзяўчынка вельмі здзівілася. — Які ты смелы! Я б, напэўна, вельмі разгубілася і доўга плакала, і не знайшла б дарогу сама! Я і тут, бывае, блукаю. Мы нядаўна пераехалі. Раней тут была пустыня, а цяпер — зялёная зона! Суседзяў у нас пакуль вельмі мала… Слухай, а ты можаш… пакатаць мяне? Я ніколі не бывала там, высока-высока, дзе заўсёды ноч!

Карабель бясшумна апусціўся ў траву і паслухмяна адкрыў люкі. Дзяўчынка выратавала яго ад смерці. Цяпер яна была новым камандзірам борта.

— А што ты ўмееш рабіць? — спыталася маленькая камандзір, калі заняла месца на мосціку.

— Страляць! — адказаў карабель.

— Не трэба страляць! Давай лепш… давай будзем спяваць? Я ведаю песню пра цябе! Я цябе навучу!

Карабель плыў над сваёй планетай. Зверху зіхацелі зоркі, унізе серабрыліся воблакі, а ў капітанскім крэсле сядзела дзяўчынка і спявала:

*…Маладзік па небе ходзіць,*
*Зоркі за сабою водзіць,*
*Хто схавацца не паспеў,*
*Той, як зорачка, згарэў!*

Зашыпелі дынамікі. З іх данеслася:

— «Маладзік», гэта вы? Неверагодна! «Маладзік», як чуеце? Прыём!

І маленькая камандзір адказала:

— Я «Маладзік»! Чую вас добра! Я вярнуўся!

# Фантастычная чацвёрка




Нізку фантастычных апавяданняў «Гарады на Зямлі і Месяцы» надрукавала «Полымя». У аснове «Няшчаснага выпадку» Тацццяны Будовіч-Барадулі ляжыць адзін з найбольшых нашых страхаў — страх двайнікоў. Пабачыць сваю копію, магчыма, было б цікава, але рэальная сустрэча не можа не выклікаць жудасці. Аднак аўтарка, апісаўшы сам выпадак (герой сядае ў тралейбус, дзе ўсе — пасажыры і кіроўца — на адзін з ім твар), зусім не перадае гэты стан: мала сказаць, што герою стала страшна. Страшна павінна быць чытачу. А калі апавяданне стваралася не дзеля гэтага, то дзеля чаго? Гэта метафара жыцця? Увасабленне хворай свядомасці чалавека, які ўспрымае свет выключна як працяг самога сябе? Ці напамін, што наш упарадкаваны свет можа быць ілюзіяй? Ідэя аўтара — цьмяная. Асобны твор «Няшчасны выпадак» таксама нагадвае хутчэй урывак з твора.

Апавяданне «Крылы» Валерыі Саротнік будуецца на метафары, вызначанай у самой яго назве. Так, ува ўсіх насельнікаў горада вырастаюць крылы. Што рабіць? У горадзе паніка. Адразу ж мабілізуюцца тры кіты сучаснай цывілізацыі: міліцыя, лекары і журналісты. Першыя клапатліва ачапляюць горад, другія істэрычна спрабуюць разабрацца, што да чаго, трэція бесцырымонна ўмешваюцца ў асабістае жыццё герояў (як бачым, у фантастыцы заўжды знаходзіцца месца рэалістычным карцінам). Валерыя Саротнік скарыстала метафару, якую можна лічыць амаль што бытавой, — так часта яе эксплуатуюць. Але, разгарнуўшы яе, перавёўшы ў разрад літаральнага, аўтарка здолела стварыць нешта арыгінальнае. Да таго ж, па колеры крылаў можна меркаваць пра душу і характар персанажа. Асабліва пацешыла такая дэталь, як камуфляжныя крылы ў вайскоўцаў.

Цэнтральны персанаж — настаўнік матэматыкі Алег, які «больш за ўсё верыў лічбам». Прадказальна, што якраз ён здзейсніў подзвіг: замест таго, каб старацца пазбавіцца крылаў, паляцеў. Галоўная гераіня апавядання тыповая для твораў, у якіх сціплы чалавек робіцца героем: гэта незаўважная маленькая прадаўшчыца, чыё жыццё «дайшло да дна». Загінайце пальцы: яе звольнілі з працы, яе кінуў хлопец, у яе памерла канарэйка (тут можна падставіць любую іншую асабістую дробязь, якая вельмі шмат значыць для гераіні), глабальная катастрофа (землятрус, вайна, чума; у нашым выпадку — усеагульнае «акрыленне»). Словам, гераіня трапіла ў апавяданне напрасткі з вялікага экрана. Увогуле, твор просіцца быць экранізаваным: далікатных, крохкіх апісанняў, якія загінулі б у святле візуалізацыі, тут няма; героі — маладыя-прыгожыя; ёсць трагічны і бязмежна мілы персанаж, які стварае апазіцыю маладым героям — доктар Грыбочак. Ён таксама хацеў паляцець, ды не атрымалася. І сюжэт тыповы: паніка — з'яўляецца герой — уздым духу — нечаканая трагедыя — падступны журналіст вяртае людзей у іх родную твань — герой ледзьве не гіне — і ўрэшце, разам з каханай, пакідае няшчасных людзей. Журналіст пакараны, людзі губляюць крылы. І мараль, і хэпі-энд.

Аўтарка паказвае, што беды чалавека не ў адсутнасці крылаў, але ў самім чалавеку: яго страхах, злосці, карыслівасці, зайздрослівасці ды іншых аздобах.

Пры тым, што апавяданне атрымалася яркім, запамінальным, яно ніяк не можа пазбыцца ценю літаратурнага практыкавання. Магчыма, справа ў лёгкасці, з якой робіцца сюжэтныя павароты, лёгкасці самой інтанацыі — усё адно што спяваць партыю Камандора дыскантам. Узнікае дысананс паміж сур'ёзнасцю праблемы і настроем твора.

Сяргей Белаяр даўно зарэкамендаваў сябе як аўтар фантастыкі: «Жалезны воўк», «Сп@м», «Апалон-18» ды інш. Гэтым разам друкуецца яго апавяданне «Заклад».

Першае, што выклікае здзіўленне, — гэта манера персанажаў гаварыць. Яны нават не гавораць — яны выкрыкваюць свае рэплікі і крычаць пастаянна, так што пад канец у вас закладае вушы. Магчыма, справа ў тым, што дзея адбываецца на Месяцы і ўсе персанажы ходзяць у скафандрах? Але якім чынам тады аднаго з цэнтральных персанажаў Кгіна Мажэйку ўдарылі па галаве, ледзьве не забіўшы? Ці ён знаходзіўся на той момант у штучна створанай атмасферы, без скафандра?.. Аўтар аддаў усе сілы на тое, каб выкрыць чалавечую бяздумнасць, прагу нажывы і ўлады, на тое, каб сарваць маску чалавека са звера, а на «матэрыяльную аснову» твора, на апісанне месца дзеяння забыўся. Ці не на 90% тэкст складаецца з дыялогаў, так што чытач сочыць толькі за развіццём стасункаў персанажаў, а ўсё астатняе застаецца цьмяным. Гэтаксама незразумела, чаму дарослыя людзі, сур'ёзныя і суровыя каланізатары, вераць у продаж душ і робяцца рабамі аднаго авантурыста.

Апавяданне Югасі Каляды «Затрымка рэйса» — самае сталае, самае «літаратурнае» ў падборцы; да ўсяго, твор можна лічыць лепшай публікацыяй сакавіцкага «Полымя».

Вы, магчыма, адчувалі, як шэраг падзей складае заканамернасці (менавіта «адчувалі»: «заўважалі» — не зусім тое слова)? Тое ж адчувае Уорвік, герой апавядання Ю. Каляды. Але разам з тым ён не разумее, у чым разгадка. Ён дакладна ведае, што ўвесь свет — шыфр, але як расчытаць яго — не ведае. Выпадковая затрымка рэйса (выпадковая?) зводзіць яго бліжэй з замежным калегам і яго жонкай і раскрывае ў рэшце рэшт імя таямнічага шыфравальшчыка. Вы гэтае імя добра ведаеце. У вельмі сціслым пераказе апавяданне «Затрымка рэйса» гучала б так: шляхі Божыя нязведаныя, але ў тым, што яны ёсць, няма сумніваў.

Невялікі тэкст грунтуецца на ідэі узаемазалежнасці рэчаў у свеце, прадвызначанасці і на нясмелых спробах чалавека ў гэтым разабрацца. Разам з тым апавяданне закранае тэмы больш «зямныя», якія, аднак, працуюць на галоўную ідэю. Прасочваецца матывацыя герояў, і пэўныя словы яны прамаўляюць не таму, што аўтар хоча выказацца тут і цяпер, але таму, што гэтага вымагае лагічнае развіццё дзеі. Ю. Каляда паказвае сябе як уважлівага назіральніка, які здольны адасобіць эмоцыі героя ад уласных. Яе голас — голас прафесійнага апавядальніка. Гэтага нестае многім нашым пісьменнікам — і не толькі пачаткоўцам, і не толькі маладым.

Алесь Бадак у прадмове да падборкі зазначыў, што творы не адбіраліся адмыслова па жанравай прыналежнасці. Так ці не, варта было б працягнуць падобныя публікацыі: сучаснае дэтэктыўнае апавяданне, дзіцячае апавяданне, навела (тым больш што з гэтым жанрам у нас вялікія пытанні) і г. д.

**Адам БЕЛЬЧЫК**

# Пад ветразямі міфаў

**У часопісе «Нёман» пачынаючы з мінулага года друкаваліся эсэ Таццяны Шамякінай пад агульнай назвай «Рамантыка савецкай навукі» (пазней — «Зямля ў арэоле таямніц»). Апошні тэкст гэтага цыкла змешчаны ў сакавіцкім нумары часопіса. Паспрабуем абагульніць, чаму былі прысвечаны гэтыя публікацыі і якія ўражанні яны маглі пакінуць у чытачоў.**

Шумерская цывілізацыя, Бермудскі трохкутнік, полацкія лабірынты часоў Вацлава Ластоўскага — эсэ Т. Шамякінай знаёміць з самымі рознымі эпохамі і культурамі. Але якое дачыненне мае рамантыка савецкай навукі да пірамід у Кітаі ці таямнічага затанулага мацерыка Лемурыі? Аўтар тлумачыць назву цыкла ў самым першым тэксце: савецкая інтэлігенцыя вельмі цікавілася «тэорыямі, альтэрнатыўнымі акадэмізму», якія дазвалялі «патрапіць у невядомы, таямнічы свет». Эсэ атрымліваюцца своеасаблівым «навуковым утапізмам, часткова звернутым у мінулае. «Часткова» таму, што прадугледжваецца размова і пра сённяшняе становішча ў культуры». Між расповедамі пра глыбокую старажытнасць Таццяна Шамякіна зноў і зноў параўноўвае час сваёй маладосці і беларускую сучаснасць, якая паўстае не вельмі прывабнай.

У цэнтры навукова-папулярных нарысаў — расповеды пра адметнае і загадкавае ў культуры, прыродзе і светабудове. Аўтар уздымае нямала праблемных пытанняў, пра што выдатна сведчаць падзагалоўкі («Старажытны Егіпет — спадкаемца Атлантыды?», «Эсхаталогія — знак часу?»). Астраномія, геаграфія, геалогія, гісторыя, культуралогія, літаратуразнаўства — такі вось прыблізны пералік навуковых дысцыплін, да якіх звяртаецца Т. Шамякіна. Навукоўца не толькі прапануе цікавыя звесткі пра метэарыты альбо егіпецкія піраміды, але і звяртае ўвагу на даследчыкаў розных незвычайных аб'ектаў. У вольным плаванні па абсягах сусветнай культуры Таццяна Іванаўна мае надзейную каманду. Тут і «заснавальніца эзатэрычнага вучэння тэасофіі» Алена Блавацкая, і колішні навуковы кіраўнік Іван Навуменка, і таямнічыя масоны, і ўлюбёныя замежныя і савецкія навукоўцы розных спецыялізацый. Часам у розных эсэ даводзіцца натрапляць на ўжо знаёмыя астравы, але пазнаваць чытанае раней прыемна: эрудыцыя пашыраецца!

Як філолаг, Т. Шамякіна часта піша пра літаратуру. Так, у старажытных міфах розных народаў можна адшукаць сведчанні пра сусветны патоп, а славянскі фальклор прываблівае касмаганізмам — «прагай дзівосаў, якія сыходзяць з неба». Першае эсэ «Мары пра будучыню» ў значнай ступені з'яўляецца аглядам мастацкіх твораў, якія адлюстроўваюць уяўленні розных пісьменнікаў пра перспектывы чалавецтва. Тут знаходзіцца месца і Джэку Лондану, і Івану Яфрэмаву, а паралелі між сучасным жыццём і літаратурнымі прагнозамі дазваляюць выказаць уласнае (вельмі адмысловае!) стаўленне да многіх тэндэнцый нашага часу. «Залаты век» Еўропы, а разам з ёй і Беларусі, паводле аўтара, дакладна застаўся ў мінулым. Затое Т. Шамякіна з захапленнем выказваецца пра ўсходнія краіны, напрыклад пра Кітай. Дапытлівыя кітайскія студэнты ставяцца ў прыклад «бяскрылай» беларускай моладзі, Кітай — магутная, мэтанакіраваная краіна, якая «абгрунтавана пагарджае так званай сусветнай супольнасцю, умее блытаць сляды і напускаць туману, у чым, безумоўна, можна бачыць вялікую ўсходнюю мудрасць».

Адным з адрасатаў сваіх эсэ аўтар называе беларускую моладзь, стаўленне да якой даволі крытычнае. Сучасны студэнт, безумоўна, адрозніваецца не толькі ад кітайцаў, але і ад сваіх равеснікаў 50 гадоў таму. Але іншае — неабавязкова горшае. Негатыўная ацэнка новага нібыта робіць непатрэбным яго аб'ектыўнае асэнсаванне. Так, апатыя і млявасць юнакоў і дзяўчат фіксуецца, каб дакарыць студэнтаў, хаця магла б разглядацца і як сімптом грамадскіх праблем.

Справядліва падкрэслівае Таццяна Іванаўна меншае захапленне сучаснікаў таямніцамі сусвету — у параўнанні з людзьмі 1960-х гадоў. За паўстагоддзя інфармацыйная сітуацыя значна змянілася: можна амаль імгненна знайсці безліч цікавых фактаў пра Індскую цывілізацыю альбо Марс. Даследчыкі даўно пішуць пра «стомленасць культурай» — «стомленасць ад абавязку чытаць, глядзець і слухаць толькі тое, што вызначае сябе ў тэрмінах абсалютнага, каштоўнага, вечнага» (А. Арол). Але цікаўнасць беларусаў не знікла дашчэнту, пра што ўскосна сведчаць факты іншых публікацый гэтага нумара (напрыклад, папулярнасць Мінскага фестывалю моў ці кнігі «Рома едзе»). Прывабліваюць не толькі новыя звесткі, але і форма падачы матэрыялу!

*«Астраномія, геаграфія, геалогія, гісторыя, культуралогія, літаратуразнаўства — такі вось прыблізны пералік навуковых дысцыплін, да якіх звяртаецца Т. Шамякіна. Навукоўца не толькі прапануе цікавыя звесткі пра метэарыты альбо егіпецкія піраміды, але і звяртае ўвагу на даследчыкаў розных незвычайных аб'ектаў.*

Справа нашых інтэлектуалаў — не адмяжоўвацца ад непрывабнай рэчаіснасці, а асэнсоўваць адметнасць сваёй культурнай сітуацыі выходзячы з сучаснага навуковага досведу. Зрэшты, эсэ Т. Шамякінай былі створаны з іншай мэтай і прываблiваюць найперш эксклюзіўнымі звесткамі пра загадкавае і незвычайнае. Трэба адзначыць і адкрытае выяўленне ўласнага погляду на сённяшняе жыццё. Было б карысна калі-небудзь натрапіць на больш аб'ектыўнае, непрадузятае супастаўленне савецкай эпохі і нашага часу — напісанае не ад першай асобы, а нейтральным культуролагам-аналітыкам. І лепш за Таццяну Іванаўну ніхто, напэўна, не патлумачыць, што страціла беларуская моладзь з распадам СССР.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Вярнуцца ў дзяцінства

**Імя Віктара Гардзея даўно стала знакам якасці літаратурных тэкстаў. Таму ці варта чарговы раз заглыбляцца ў аналіз мастацкіх твораў? Ці не лепей паразважаць пра творчасць пісьменніка ў цэлым, лаканічна абазначыць асноўныя яе рысы?..**

## КРЫНІЦА ВЕДАЎ

Зборнік аповесцей і апавяданняў «З мінулага не вяртаюцца…», выдадзены ў самавітай серыі «Беларуская проза XX стагоддзя», выкліча найперш настальгію і сум па дзяцінстве, прычым сумуецца з узростам усё больш і больш. Усе тры аповесці В. Гардзея — «Дом з блакітнымі аканіцамі», «Жыта ганьбу не заслоніць», «Па Сеньку і шапка» — адкрываюць чытачам мастацкі свет вачыма дзяцей. У многім менавіта іх інтэрпрэтацыю атрымліваюць падзеі пасляваеннага жыцця. Але неабавязкова быць народжаным у другой палове 1940-х гг., як аўтар, каб перажыць далёкія часы свайго дзяцінства. В. Гардзей з тых апавядальнікаў, якія, гаворачы пра сябе, гавораць і пра сваіх чытачоў, перадусім пра тых, каго завуць «сенам на асфальце».

Прыём рэтрансляцыі сюжэта праз дзіцячую свядомасць не новы ў літаратуры. Дый В. Гардзей ніколі не прэтэндаваў на наватарства, свядома прытрымліваючыся класічных канонаў прыгожага пісьменства — як у прозе, так і ў паэзіі. Аднак гранічная шчырасць яго аповедаў — непадробная, нескапіраваная, кангеніяльная беларускаму менталітэту, нацыянальнай культуры. Нават у побытавых драбніцах — а мастацкая дэталь наўпрост гаворыць пра талент творцы — пісьменнік выяўляе не толькі ўвагу, але і ўменне «злавіць» момант, у тым ліку датычна дзіцячай псіхалогіі. Напрыклад, выпадак, калі дашкольнік Слаўка з «Дома…» неўпрыкмет для сябе злізаў схаваную ад яго мачыхай каву: «Вось яна ў руках, тая горка-салодкая шчыпта, напалову перасыпаная цукрам! Слаўка смакуе каву, ліжа языком, а потым бярэ лыжку. Пакуль не растане цукар, кава салодкая, а потым яна і праўда гаркаватая. Ды нічога, Слаўкаў язык любіць яе і такую. Трэба было ўжо даўно паставіць пачак на месца, трэба было не даваць такой волі языку, але Слаўка не мае сілы што-небудзь зрабіць з сабой. Апамятаўшыся, ён суне амаль пусты пачак у пячурку, закрывае анучкамі. Але ад таго, што Слаўка дрыжыць ад страху, кавы ў пачку не пабольшае. Цяпер адно выратаванне: трэба ўцякаць да бабулі» (с. 95).

Сюжэты ў В. Гардзея — дзіўнае спалучэнне лірычнага і эпічнага. Перавага першага спрые інтымнай задушэўнасці ў зносінах чытача і кнігі. Катарсіс можна выклікаць, што называецца, на роўным месцы. Так, апісанне Насцінага агарода з «Жыта…» плаўна пераходзіць да ўспамінаў пра яе мужа, — і ўсё таму, што аўтар, нібы нечакана для самога сябе, поглядам натрапіў на тытунь-самасей, па якім «можна прасачыць колішнія Сямёнавы сцежкі-дарожкі». Цяпер тытунь непатрэбны, але ўдава яго не знішчае — то памяць пра каханага. Узвышанасць дасягаецца сродкамі прыземленымі, будзённымі, без высокіх слоў, без прыгожых, «дарагіх» прадметаў-сімвалаў. Гэта і ёсць якраз тое, што называецца паэтызацыяй будзёншчыны і што так цяжка даецца пісьменнікам. У В. Гардзея кожны крок прасякнуты душэўнай метафарай, кангеніяльнай перадачай кантэкстуальнага настрою, дакладней, такая перадача і стварае кантэкстуальны настрой.

Творы В. Гардзея могуць выступаць крыніцай матэрыялаў для некалькіх навук:

• **гісторыі.** Сёння ў модзе аналізаваць і канструяваць паўсядзённасць нашых продкаў, часта — недалёкага мінулага. Пасляваенны час беларускай вёскі добра раскрыты ў творах В. Гардзея: якім быў сацыяльны кантэкст, чым жыў селянін, чытач даведаецца дзякуючы нетаропкаму аповеду, які заканчваецца нечакана, ажно да суму хутка.



Малюнак Алесі Ісы

> *Вершы яго — з заўсёдным гумарам і хітрынкай, якія часта робяцца салодкай абалонкай для горкай пілюлі маралі. Так дзеці адчуваюць сябе не аб'ектам выхавання, а яго суб'ектам, самастойна засвойваючы жыццёвыя правілы.*

• **этнаграфіі.** В. Гардзей не скупіцца на апісанні: у што апраналіся, як вялі гаспадарку, што елі, што пілі, прычым робіць гэта адначасова з адлюстраваннем перажыванняў чалавека, успрыманнем жыццёвай плыні самім героем. Цікава, што нават жаночыя справы аўтар адлюстроўвае з тонкім веданнем: «Насця была цярплівай кабетай, і доўга ці мала мінула часу, а масла памаленьку збівалася. Гэта адчулася па тым, што калатоўка ўперлася ў тугі камяк і далей ёй няма ніякага ходу. Насця паднялася з парожка, пайшла з бойкай у хату, вычарпала жоўтую груду ў міску з халоднай вадой. Пакуль масла не зацвярдзела, скатала яго ў круглую галку. Пайшла ў агарод, нарвала бурачнага лісця і абкруціла ім масла. У бурачніку яно не растае, не ялчэе, можа доўга ляжаць свежанькае, як толькі што збітае».

• **дыялекталогіі.** Без гэтай галіны навуковых ведаў немагчыма было б адэкватна адлюстраваць дзве папяроўнія. Лексіку аўтар узбагачае праз народныя гаворкі, звычайна кругавіцкія, часам выяўляючы «лексічны натуралізм»: «— Адстань, не лезь сляпіцаю ў вочы, — прастагнала Барабаніха і, ужо адбегшыся, пагразіла: — Пачакай жа, галетніца! Прыйдзе коза да воза. Скулу ў бок, а не грошай я табе пазычу!»

## ВЕСЕЛА І ДАСЦІПНА

В. Гардзей таленавіты не толькі на «дарослую» літаратуру, але і на ўменне весці дыялог з маленькімі чытачамі (а часам яшчэ толькі слухачамі). Прычым — не з пазіцый павучальнасці, а на роўных. Доказам — чарговыя (каторыя па ліку!) кнігі для дзяцей — сведчанне не толькі таленту В. Гардзея як дзіцячага пісьменніка, але і багацця дзіцячай літаратуры Беларусі ўвогуле, бо такіх аўтараў, на шчасце, у нас нямала, і самае галоўнае — папулярнасць іх кніг не спадае, яны імкліва разбіраюцца. Карыстаюцца папулярнасцю і «Сарочына цырульня» — зборнік вершаў, адрасаваны малодшаму школьнаму ўзросту, — і «Мудры воран» — зборнік рознафарматных фальклорных аповедаў, які разлічаны на крыху старэйшую чытацкую аўдыторыю.

«Сарочая цырульня» распавядае пра насельнікаў фауны. В. Гардзей у свой час прайшоў школу вядомага часопіса «Родная прырода», якая, відаць, не адпускае аўтара і праз дзесяцігоддзі. Вершы яго — з заўсёдным гумарам і хітрынкай, якія часта робяцца салодкай абалонкай для горкай пілюлі маралі. Так дзеці адчуваюць сябе не аб'ектам выхавання (каму падабаецца маралізатарства?), а яго суб'ектам, самастойна засвойваюць неабходныя жыццёвыя правілы.

В. Гардзей прыдумляе вершаваныя задачкі рознай ступені складанасці і такім чынам развівае дзіцячы розум. Нярэдка аўтар дапамагае знайсці адказы на пытанні, але чытачу трэба быць уважлівым, каб распазнаць гумар: жарты В. Гардзея тонкія не толькі для дзяцей, але і для дарослых, і разам з тым аднолькава добра ўспрымаюцца і тымі і другімі:

*Калі чужы пакажацца ля плота,*
*Палкан забрэша на яго*
*з ахвотай.*
*Пытае верабей:*
*— З якой нагоды*
*На ланцугу сядзіць Палкан*
*заўсёды?*
*Кот адказаў, зірнуўшы*
*на падстрэшак:*
*— Бо ён дурны — не мяўкае,*
*а брэша.* («Палкан»)

> *Пісьменнікаў, якія ўслаўляюць малую радзіму, нямала, але і тут Віктар Гардзей вылучаецца: абсалютная большасць кніг малосянца (так называюць жыхароў вёскі Малыя Круговічы) — пра сваю «мясцовасць» і землякоў.*

Бадай, кожны вершык В. Гардзея ў «Сарочынай цырульні» асаблівы, непаўторны як у мастацкіх прыёмах, так і ў логіцы думкі, што гарантуе дынамічнае чытанне. Ад старонкі да старонкі арыгінальнасць не сціраецца. Кнігу, аздобленую малюнкамі Андрэя Пазняка, з задавальненнем гартаюць нават самыя маленькія (праверана на гадавалым сыне).

## БАЙКІ МУДРАГА ВОРАНА

Адрасаванае малодшаму і сярэдняму школьнаму ўзросту, выданне «Мудры воран» незвычайнае па змесце. Ці часта (не толькі ў беларускай літаратуры) можна сустрэць пераклад з фармату фальклорных аповедаў на мову сучаснай паэзіі? Думаецца, не. Віктар Гардзей такі пераклад ажыццявіў, і, здаецца, удала. Пяро дасведчанага аўтара (паўвека ў вялікай літаратуры!) не хібіць — ні сэнсам, ні формай. В. Гардзей чарговай кнігай дапамагае маладому пакаленню знайсці шляхі да душэўнага збліжэння з прыродным светам і культурай, атрыманай у спадчыну ад прадзедаў. У вобразным ключы нам усім (а не толькі дзецям) тлумачыцца, чаму кнігаўка просіць піць, з якой прычыны лютуе расамаха, адкуль паходзіць выраз «лебядзіная песня». Пагадзіцеся, далёка не кожны зможа прыдумаць хоць якую версію адказу.

Пісьменнікаў, якія ўслаўляюць малую радзіму, нямала. Але і тут В. Гардзей вылучаецца (нездарма яго імя высока ўшанавана на радзіме): абсалютная большасць кніг малосянца (так неафіцыйна называюць жыхароў вёскі Малыя Круговічы, адкуль ён родам) — пра сваю мясцовасць і землякоў. І ў «Мудрым воране» аўтар не здрадзіў сабе. Геаграфічныя назвы ў большасці сваёй належаць Палессю, і погляд аўтара нязменна прыцягваецца да яго роднай вёскі. Знойдзем тут славутыя Тураў, Бярэсце і Кажан-Гарадок, рэчкі Лань і Ведзьму — яшчэ каму-нікаму вядомыя. Спаткаўшы ж Імшэчак, большасць чытачоў нават Ганцавіцкага раёна задумаецца, што ж аўтар меў на ўвазе. А гэта «балотца», якое і сёння не паддалося меліярацыі. У раздзеле паданняў (названым, дарэчы, з люсінска-коласаўскай афарбоўкай «Целяшовым Дубам») ёсць цэлы падраздзел «Кругавіцкія былі». Так В. Гардзей на асабістым прыкладзе і з дапамогай сваіх герояў нязмушана далучае чытачоў да патрыятызму. Пры гэтым мастак вельмі ўдала прыводзіць і станоўчыя, і адмоўныя прыклады. Дзеля паказальнасці — адзін з іх, пад назвай «Сучасная курыца»:

*Бяжыць чубатка ў крыўдзе*
*змрочнай:*
*Турнулі з градкі агурочнай.*
*Ды, зноў жа, вабную сабою*
*Назвалі курыцай рабою.*
*— Жыць не хачу ў хляве*
*сялянскім,*
*Хачу пажыць у доме панскім!*
*Развею там бяду і скруху,*
*Дадуць там лепшую «клікуху».*
*Тут падняла чубатка голаў:*
*Імчыць аўто між частаколаў.*
*— Шафёр, мацней трымай*
*баранку,*
*Не раздушы Галіну Бланку!»*

Упэўнены, гэтая ды іншыя байкі «Мудрага ворана» будуць прачытаныя з нязменшай цікавасцю, чым ранейшыя творы В. Гардзея, і стануць вартым каштоўным арыенцірам для чытачоў самых розных узростаў.

Жадаеце патрапіць на радзіму, у дзяцінства, — чытайце творы Віктара Гардзея. Можа, і не вяртаюцца з мінулага (як дэкларуе назва першай з разгледжаных тут кніг), але перанесціся туды — хоць бы думамі і пачуццямі — магчыма!

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

# Пяцьдзясят моў за восем гадзін

**Нататкі пра цікавыя культурныя падзеі, магчыма, пакідаюць чытача ў засмучэнні: прайшло выдатнае мерапрыемства, а патрапіць туды не давялося. У выпадку з Мінскім фестывалем моў нагоды для смутку няма: паводле традыцыі ён адбываецца ў апошнюю нядзелю сакавіка на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Час і месца вядомыя — і дакладна праз год арганізатары чакаюць новых гасцей. А пра фармат фестывалю, які дазволіў весела і карысна правесці халодны сакавіцкі дзень, можна даведацца і сёння!**

Як распавесці пра пяцьдзясят моў за восем акадэмічных гадзін? Найлепшыя ўражанні ад фестывалю ў значнай ступені тлумачыліся яго адмысловай арганізацыяй і шырокімі магчымасцямі ўласнага выбару. Прэзентацыі моў адбываліся паралельна: адначасова дванаццаць прэзентацый у розных аўдыторыях. Шэсць паралеляў — і, такім чынам, за дзень фестывалю кожны мог пазнаёміцца толькі з шасцю мовамі альбо лекцыямі. Выбар няпросты, але прэзентацыі некаторых моў (англійскай, кітайскай, нямецкай, санскрыту, турэцкай і інш.), на шчасце, праходзілі двойчы. Акрамя прэзентацый, наведвальнікаў чакалі лінгвістычныя лекцыі, моўныя гульні, лекцыі па беларусістыцы і кітайская чайная цырымонія.

«Фестываль атрымаўся цудоўным, бо тут захавана агульная канструкцыя Маскоўскага фестывалю моў. Такі фармат — унікальная рэч, аналагаў якой няма. Гэта наша знаходка, і добра, што яна жыве і развіваецца», — падкрэсліла дырэктар Маскоўскага фестывалю моў Ірына Ганчарова. Для беларускіх наведвальнікаў спадарыня Ірына падрыхтавала лекцыю пра эсперанта і менш як за сорак пяць хвілін правяла поўны агляд граматыкі гэтага моўнага феномена.

Стваральнікам першага ў свеце Фестывалю моў таксама быў эсперантыст — амерыканскі лінгвіст Дэніс Кіф. Каб запрасіць на курсы эсперанта, ён расказваў пра гэту мову на плошчах і зразумеў, што прэзентаваць мовы ў нефармальных абставінах — справа цікавая і прадуктыўная.

Стваральнікамі і арганізатарамі Мінскага фестывалю моў сталі аспірант і выкладчык Інстытута лінгвістыкі Расійскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта (Масква) Антон Сомін і аспірантка Інстытута рускай мовы РАН Ірына Пінхасік. Разам з імі мерапрыемства рыхтавала «група неабыякавых таварышаў» — неабыякавых да таго, што адбываецца ў Рэспубліцы Беларусь і ў свеце сучаснай лінгвістыкі: студэнты, аспіранты і выкладчыкі БДУ і Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, а таксама спецыялісты па асобных мовах з Мінска, Масквы і Санкт-Пецярбурга.

На адкрыцці фестывалю ўдзельнікі за дваццаць секунд анансавалі свае лекцыі. Кароткі агляд дазволіў сарыентавацца ў доўгім спісе моў. Наведвальнікі пазнаёміліся з эльфійскай і клінгонскай мовай, вынайдзенай амерыканскім лінгвістам Маркам Окрандам для серыяла «Зорны шлях». Выкладчык Інстытута лінгвістыкі РДГУ Аляксандр Піперскі прадставіў руска-нарвежскі піджан русенорск, а студэнт МДЛУ Юры Зімін прэзентаваў афрыканскую мову суахілі і мову наваха, на якой размаўляе больш як сто семдзесят тысяч індзейцаў. Пра ідыш — адну з некалі дзяржаўных моў Беларусі — расказваў складальнік ідыш-беларускага слоўніка Аляксандр Астравух, а пра беларускую мову — студэнт з Германіі Рубан Бівальд.

Студэнты-замежнікі прыязджаюць у Беларусь, каб вывучыць нашу нацыянальную мову. З гэтай нагоды ў інтэрнаце БДУ могуць сустрэцца японка, чэх, славак, аўстрыец... Рубан Бівальд ужо прызвычаіўся, што на вуліцы яго часам пазнаюць і спыняюць, каб удакладніць: ці не ён той самы немец, які прыехаў вывучаць беларускую мову? На прэзентацыі Рубан распавёў (вядома, па-беларуску!) пра тое, што падабаецца і не падабаецца ў нашай краіне, параўнаў нямецкую і беларускую кухню, вызначыў галоўныя цяжкасці ў навучэнні. З Дрэздэнскага ўніверсітэта будучы юрыст прыехаў у Мінск, каб навучыцца чытаць Статуты Вялікага Княства Літоўскага. Займаецца ён і кнігамі, выдадзенымі па-арабску. Самае складанае для Рубана ў гаворцы — не пераключацца на рускую мову, бо можа атрымацца незвычайная замежная трасянка! А чытае замежны студэнт «Рабінзона Круза» ў перакладзе на беларускую мову.


Фота Дзмітрыя Вандзіча

*Прэзентатар кітайскай мовы Марыя Аксючыц.*

**Цікавыя факты:**

- *Больш як 700 чалавек наведала ІІІ Мінскі фестываль моў. На лекцыях І Мінскага фестывалю прысутнічала 350 гасцей, ІІ — 530.*
- *Першы фестываль моў адбыўся дваццаць гадоў таму — у сакавіку, у Францыі (г. Тур).*
- *Найбуйнейшым Фестывалем моў стаў Першы кітайскі фестываль, які прайшоў у 2008 годзе ва ўніверсітэце Нанкіна: за два дні ў ім узяло ўдзел больш як 13 000 наведвальнікаў.*

Падчас фестывалю давялося наведаць і прэзентацыю японскай мовы, на якой Акіра Фурусава расказаў пра розныя сістэмы пісьма, навучыў вымаўляць галоўныя японскія словы і патлумачыў сваё імя. Лекцыі ў сорак пяць хвілін хапіла, каб стварыць агульнае ўяўленне пра асаблівасці гэтай далёкай мовы.

Трэці Мінскі фестываль моў прайшоў выдатна: пазітыўныя эмоцыі, шмат моладзі, заўсёды поўныя (пераважна лекцыйныя) аўдыторыі філфака. Яшчэ адна добрая справа — гэта лінгвістычная алімпіяда для школьнікаў, якая двойчы праводзілася ў нашай краіне. Зусім нядаўна Міжнародная асацыяцыя алімпіяд па лінгвістыцы пагадзілася ўзяць беларускую алімпіяду ў свае шэрагі. Цяпер арганізатары могуць адправіць каманду з чатырох лепшых удзельнікаў на міжнародную алімпіяду. Магчымасць абірацца і прафарыентаваць будучых лінгвістаў мае вялікае значэнне як для беларускіх ВНУ, так і для маладых мовазнаўцаў з Беларусі.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Расчытаць тэкст

*Стылістыка беларускай мовы : вучэб. дапам. / Т. Я. Старасценка. — Мінск : РІВШ, 2013. — 212 с.*

Напэўна, усе падручнікі па стылістыцы распачынаюцца аглядам функцыянальных стыляў мовы. А вось працяг можа быць самым розным. Так, адна з мэт Таццяны Старасценка — пазнаёміць студэнтаў ВНУ з дыскурсіўным падыходам да аналізу тэксту. Цікавых момантаў нямала і на старонках, прысвечаных іншым тэмам. Напрыклад, у кантэксце размовы пра гутарковы стыль даследчыца спыняецца на асаблівасцях інтэрнэт-камунікацыі. Нягледзячы на тое, што элементы размоўнага стылю часта сустракаюцца ў блогах ці электронных лістах, беларуская спецыялісты не спяшаюцца ўключаць асобныя інтэрнэт-жанры ў гутарковы стыль.

У тэме «Стылістыка тэксту» Т. Старасценка звяртае асобную ўвагу на такія паняцці, як вобраз аўтара, вобраз апавядальніка, суб'ектывацыя аповеду. Не ўмееце знаходзіць у творах імпліцытны кантраст, не ведаеце, чым адрозніваюцца ўяўленчы і выяўленчы кампазіцыйныя прыёмы? Калі гэта вам патрэбна, «Стылістыка беларускай мовы» — проста выдатная кніга! Стылістычныя з'явы разглядаюцца на прыкладах з тэкстаў, што дапаможа навучыцца выяўляць іх самастойна.

Стылістычны аналіз можа спатрэбіцца, каб раскрыць адметнасці аўтарскай індывідуальнасці, дэкадзіраваць мастацкі твор, аднак грунтоўныя высновы не заўсёды дазваляюць ацаніць вартасць верша ці апавядання, ступень літаратурнай адоранасці пісьменніка. Як і многія метадалогіі літаратуразнаўства, стылістыка дапамагае апісаць твор, зразумець, якім чынам ён «зроблены». Так, выяўленне эфекту падманутага чакання ў вершах Максіма Танка ці радоў металагічных вобразаў у вершаказах Алеся Разанава раскрывае тэхналогію напісання шэрагу вядомых твораў. Але, на жаль, выкарыстанне тых ці іншых стылістычных прыёмаў не гарантуе пачэснага месца на паліцах класікі. Фрагменты многіх твораў, змешчаныя ў якасці прыкладаў, нагадваюць пра літаратурную Атлантыду кніг, сюжэтаў і персанажаў, амаль невядомых сучаснаму чытачу.

Тэрміналогія — гэта мова навукі, і вельмі важна, каб сучасны філолаг мог разумець мову замежных калег. Зварот да дыскурсалогіі і нараталогіі на старонках дапаможніка падаецца безумоўна актуальным. Т. Старасценка згадвае дыялагічную канцэпцыю Міхаіла Бахціна, коратка супастаўляе англа-амерыканскую і еўрапейскую школы дыскурс-аналізу, звяртаецца да манаграфій беларускіх даследчыкаў Віктара Іўчанкава і Пятра Жаўняровіча, у якіх праводзіцца дыскурсны аналіз публіцыстычных тэкстаў. Як вядома, у тэорыі дыскурсу нямала цьмяных месцаў, таму прасвятліць сітуацыю павінны дыскурс-аналіз замалёўкі Янкі Брыля і тэкст, прысвечаны моўным асаблівасцям рэлігійнага дыскурсу. Наўрад ці прапанаваны матэрыял дазволіць студэнтам самастойна заняцца дыскурс-аналізам, але агульнае ўражанне застанецца. Больш прыдатнымі для практычнага выкарыстання падаюцца звесткі пра маркёры зоны аўтарскага дыялогу, якія дазваляюць «акрэсліць зону дыялагічнага кантакту суб'екта (аўтара) з адрасатам (чытачом)».

Знаёмства з вучэбным дапаможнікам пераканае студэнтаў, што тэкст, словамі В. Іўчанкава, — «гэта не простая лінгвістычная адзінка, а з'ява чалавечай дзейнасці, камунікацыі і пазнання». А каб пазнанне апынулася больш глыбокім, чытачоў чакаюць практычныя заданні, праверачны тэст і спіс літаратуры, які будзе мастком у свет сучаснага мовазнаўства.

**Янка НАТАВЕЦ**

# Падарожжа ад Мінска да мяжы сусвету

**Канчаткі назоўнікаў другога скланення ў форме роднага склону адзіночнага ліку заўсёды выклікаюць шмат пытанняў.**



Малюнак Алесі Ісы

Для таго каб разабрацца з набалелым, — пісаць (вымаўляць) **а** або **у** — павандруем у прасторы.

Спачатку спынімся на канкрэтных населеных пунктах, напісанні і вымаўленні іх назваў у родным склоне. *Мінск, Ваўкавыск, Гданьск, Калінінград, Стакгольм* — такія, напрыклад, прыпынкі зробім. Што аб'ядноўвае гэтыя і многія іншыя назвы гарадоў і іншых населеных пунктаў, якія заканчваюцца на зычны гук? Тое, што ў форме роднага склону адзіночнага ліку яны ўжываюцца ў беларускай мове з канчаткам **-а**.

Зазірнём у любы зборнік правілаў, дзе ёсць звесткі пра канчаткі, і даведаемся: агульныя і ўласныя назвы населеных пунктаў і мясцовасцей, геаграфічныя і астранамічныя назвы, гідронімы (назвы водных аб'ектаў) у родным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак **-а** або **-я**. Значыць, пішам і вымаўляем: *горада Мінск**а**, Ваўкавыск**а**, Гданьск**а**, Калінінград**а**, Стакгольм**а**, Лондан**а**, Рым**а***, а таксама *Алта**я**, Крым**а**, Марс**а**, Сатурн**а**, Нёман**а**, Буг**а***.

Пашырым геаграфію: пяройдзем ад канкрэтных пунктаў да больш маштабных паняццяў. *Абшар, краявід, сусвет, космас* — цяпер пад увагай гэтыя і падобныя словы. Яны абазначаюць розныя формы прасторы, месца, прычым значныя па плошчы. Такія назоўнікі ў родным склоне адзіночнага ліку маюць канчатак **-у**: *абшар**у**, краявід**у**, сусвет**у**, космас**у***.

Падвядзём вынік нашага падарожжа. Ад *Мінск**а*** да *Лондан**а***, ад *Крым**а*** да *Рым**а*** і далей — канкрэтныя, у тым ліку геаграфічныя, астранамічныя найменні, ужываем у родным склоне з канчаткам **-а**. Калі ж маштабы становяцца шырэйшымі — *космас, сусвет*, — ледзь не абстрактнымі, пішам і вымаўляем у родным склоне адзіночнага ліку **-у**.

**Вераніка БАНДАРОВІЧ**



Фота з сайта terra-z.ru

# Як напісаць цікавы травелог?

**У падарожжы ў новае месца — далёкую экзатычную краіну ці проста ў іншы горад ці вёску — вельмі хочацца, каб у памяці засталося як мага больш дэталяў пра паездку, каб успаміны як мага даўжэй былі яркімі і дакладнымі. Натуральна, закансерваваць эмоцыі дапамогуць фотаздымкі, зробленыя падчас паездкі (куды ж без іх сёння?), але, на жаль, яны не здольныя перадаць новыя смакі, пахі, гукі, распавесці смешныя ці страшныя выпадкі. Ёсць іншае выйсце — напісаць травелог, ці падарожныя нататкі. Гэты літаратурны жанр, які знаходзіцца на мяжы мастацкай прозы і журналісцкага матэрыялу, дазваляе нібыта «замарозіць» час паездкі ў тэксце. Разам з тым насычаны яркімі дэталямі расповед можа стацца не толькі добрай памяткай для самога аўтара нататак, але і прыемнай чытанкай для яго сяброў, знаёмых і ўсіх цікаўных.**

Натуральна, як і літаратурныя творы іншых жанраў, травелогі мусяць стварацца па пэўных правілах. Каб падарожныя нататкі былі цікавымі і запамінальнымі, іх аўтар павінен не проста распавядаць пра сваю паездку, але і памятаць пра асноўныя прынцыпы стварэння тэкстаў гэтага жанру. Не так даўно ў Мінску прайшоў майстар-клас пісьменніцы і перакладчыцы Яўгеніі Дабровай, падчас якога аўтарка падзялілася сваімі знаходкамі ў галіне напісання падарожных нататак. Так, паводле Яўгеніі, добры травелог можна стварыць, выконваючы некалькі простых правілаў.

**1. Пісаць толькі праўду неабавязкова.**

Падарожныя нататкі знаходзяцца на мяжы мастацкай літаратуры і нон-фікшн. Натуральна, не ўсе тэксты патрабуюць дадумвання, аднак не трэба баяцца ўключыць фантазію і распавесці пра тое, што цалкам магло адбыцца, але чамусьці не адбылося. Вас не абвінавацяць у падмане, калі вы напішаце, што дзень паездкі быў сонечны, хоць на дварэ ліў дождж, вы можаце прыдумаць рамантычную сустрэчу, загадкавых спадарожнікаў, містычныя дэталі. Але варта адчуваць мяжу, інакш у выніку вы атрымаеце не травелог, а казку. Дарэчы, можна пісаць не толькі пра тыя падарожжы, якія адбываліся ў рэчаіснасці. Прыдумайце сваю паездку, нават краіну прыдумайце — і смела пачынайце пісаць мастацкі травелог.

**2. Памятайце пра апісанні.**

Як і тэксты іншых жанраў, травелог мусіць будавацца па звыклай схеме: завязка — кульмінацыя — развязка. Аднак гэты каркас у падарожных нататках павінен дапаўняцца мноствам апісанняў. Важна звяртаць увагу літаратара на ўсё, апісваць прастору, месца, партрэты, падзеі, не забывацца на дыялогі, ужываць мясцовыя слоўкі, жарганізмы — яны дапамогуць перадаць адметныя рысы горада ці краіны, па якой вы падарожнічаеце. Каб апісанне было яркім і запамінальным, варта памятаць пра прыметнікі, якія адпавядаюць пяці пачуццям чалавека: зрок, слых, нюх, дотык, смак. Тэксты, дзе аўтар звяртае ўвагу на некалькі мадальнасцей (можна працаваць і з усімі, але асцярожна, каб не было перагружанасці), адразу ж далучае чытача да расповеду, а карціна, апісаная такім чынам, становіцца выпуклай і запамінальнай.

**3. Выкарыстоўвайце сродкі мастацкай выразнасці.**

Калі словы «метафара», «эпітэт», «метанімія» вам чужыя і невядомыя, то тэрмінова ідзіце ў бібліятэку ці кнігарню па «Паэтычны слоўнік» Вячаслава Рагойшы, які-небудзь падручнік па тэорыі літаратуры ці хаця б у гугле набярыце «тропы». Насычанасць прыгожымі і яркімі вобразамі — важны крытэрый добрых падарожных нататак. Пры гэтым варта пазбягаць «лянівых», ці банальных, прыметнікаў, якія проста забіваюць чытацкі інтарэс, ды і асобу самога аўтара паказваюць не з лепшага боку. Ваш дэвіз: чым арыгінальней вобраз — тым лепш; чым нечаканей прыметнік у апісанні — тым больш шансаў, што вашыя нататкі не кінуць чытаць пасля першага ж сказа.

**4. Стварыце свайго героя.**

Зразумела, што падарожныя нататкі звычайна пішуцца ад першай асобы і распавядаюць пра досвед самога аўтара. Таму лагічна, што ваш герой — вы самі. Зрабіце сябе назіральным, уважлівым, памятайце пра дэталі і яркія акцэнты, распавядайце не толькі пра знешнія аспекты падарожжа, але і пра ўнутраныя. Апісвайце свае эмоцыі, адчуванні, перажыванні падчас паездкі. Варта памятаць, што ваша мэта — не проста перанесці на паперу ўражанні, але і паказаць, як знаёмства з новымі мясцінамі і людзьмі паўплывала на вашу асобу. Гэта не проста тэкст у стылі «выехаў з дома, быў у дарозе, пабачыў нешта новае, прыехаў назад», але ў некаторай ступені споведзь пра тое, што змянілася пасля падарожжа.

**5. Зазірніце ў мінулае.**

Чытачам цікава не толькі даведацца пра вашыя ўражанні ад падарожжа ў новыя мясціны, але і атрымаць пэўную інфармацыю пра тое месца, куды вы прыехалі. Адзін з варыянтаў знаёмства — зазірнуць у мінулае мясцовасці, параўнаць сучасны выгляд горада з яго аблічам стагоддзі таму. Не абмінайце важныя гістарычныя факты, аналізуйце іх уплыў на сённяшняе развіццё мясцін, распавядайце пра звычкі жыхароў рэгіёна, каларытныя рэчы, разважайце пра тое, чаму ўсё склалася менавіта так. Нават калі вашае меркаванне будзе памылковым — нястрашна, важна далучыць чытача да развагі, уключыць у працэс стварэння тэксту.

**6. Выказвайце ўласнае меркаванне.**

Што я бачу? Як я на тое рэагую? Што адчуваю? Гэтыя пытанні вы мусіце задаваць сабе кожны раз, калі збіраецеся напісаць новую главу падарожных нататак. Добры травелог вылучаецца ўласным стаўленнем да рэчаў, уласнымі высновамі, да якіх прыходзіць аўтар пасля знаёмства з новай краінай, горадам і культурай. Звяртайце ўвагу не толькі на прыгожыя будынкі, пейзажы, нечаканыя з'явы і факты, але і на тое, што менавіта вы адчуваеце ад знаёмства з імі, як яны на вас уплываюць і якім чынам атрымаць ў падарожжы досвед дапаможа ў далейшым жыцці на радзіме.

**7. Выконвайце творчыя практыкаванні.**

Як бы дзіўна гэта ні гучала, але ўменне пісаць падарожныя нататкі можна параўнаць з мускулам. Цалкам магчыма яго развіць адмысловымі трэніроўкамі. Спецыяльныя практыкаванні зробяць вас больш назіральнымі, навучаць акцэнтаваць увагу на патрэбных момантах, дапамогуць дакладней выказваць думкі, дзяліцца перажываннямі з чытачамі. Прывяду некалькі простых спосабаў падрыхтавацца да запланаванага падарожжа. Адно з такіх практыкаванняў — «Погляд чужака», ці «Свой — чужы». Для яго выканання патрэбна прыйсці ў месца, дзе знаходзяцца людзі, зусім да вас не падобныя. Напрыклад, любіце дыскатэкі — купіце квіток на рок-канцэрт, захапляецеся ўсходнімі танцамі — завітайце на вечарыну дударскага клуба. Натуральна, трэба не проста правесці час сярод чужых, але і напісаць пра тое, што вы бачылі і што адчувалі пры знаёмстве з гэтым далёкім і блізкім светам. Яшчэ адно практыкаванне — «Мяне абслугоўваюць». Трэба зайсці ў невядомую краму, перамераць у ёй усё адзенне, але нічога не набываць. Увесь час задумвацца пра тое, што адбываецца, як я рэагую на гэта, як рэагуюць на мяне, і апісаць свае адчуванні ў тэксце.

Дасведчаныя аўтары травелогаў раяць: перш чым пісаць пра ўражанні ад падарожжа ў далёкую краіну, варта паспрабаваць распавесці пра родныя мясціны. Трэба пералічыць 5 месцаў, пра якія вы хацелі б напісаць і адказаць на пытанні: чаму менавіта гэтыя мясціны? чым я хачу падзяліцца з чытачамі? чаму я лічу, што тэкст будзе цікавы? У адказах на гэтыя пытанні і будзе заключацца асноўная думка вашых нататак.

Ну што, паспрабуем?

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Прэзентацыя*

# Суніцы ў душы




Новая кніга ўкраінскай і беларускай паэткі Маі Львовіч «Мелодія щастя. Мелодыя шчасця» пабачыла свет у Харкаве напрыканцы мінулага года. У зборнік увайшлі вершы паэткі на беларускай і ўкраінскай мовах, напісаныя ў розныя гады.

Мая Львовіч нарадзілася ў Адэсе, з 1938 года жыве ў Харкаве. Адметна, што Мая Давідаўна памятае свае беларускія карані (яе бацькі паходзілі з Гомельшчыны) і актыўна працуе ў кірунку развіцця беларускай літаратуры. Так, яна ўзначальвае Харкаўскую суполку Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Вакол яе бібліятэкі, якая перададзена ўжо ў адну з кніжніц горада, гуртуюцца суайчыннікі яе бацькоў. Мая Львовіч пераклала на ўкраінскую мову некалькі беларускіх кніг прозы, перастварыла вершы Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Аляксея Пысіна, Рыгора Барадуліна, яна з'яўляецца сябрам Саюза пісьменнікаў Украіны і Саюза пісьменнікаў Беларусі.

У кнігу Маі Львовіч «Мелодія щастя. Мелодыя шчасця» ўвайшлі вершы на ўкраінскай і беларускай мовах. Частка выдання прадстаўлена ў фармаце білінгва, дзе паралельна з арыгіналамі змешчаны аўтаперaклады аўтаркі (пры гэтым складана вызначыць, на якой мове быў напісаны арыгінал), але ёсць тут і асобныя раздзелы з беларускімі і ўкраінскімі вершамі.

Паэтычны голас Маі Львовіч тонкі і лірычны. Аўтарка шмат піша пра прызначэнне творцы, разважае пра паэзію і месца паэта ў свеце. У яе вершах гучаць ноткі суму па другой радзіме — Беларусі, а таксама шкадаванне пра тое, што па-беларуску яна можа размаўляць толькі сама з сабою. У творах Маі Львовіч адчуваецца ўплыў Максіма Багдановіча і Максіма Танка, Уладзіміра Караткевіча і Рыгора Барадуліна, але гэтыя перагукі хутчэй усьпрымаюцца як даніна памяці выдатным творцам, чым жаданне пераняць чужы голас і прамаўляць чужымі словамі.

**Юзэфа ВОЎК**

# Навінкі кнігавыдання

### Беларуская літаратура

**Каб неба мірнае — навек!:** зборнік вершаў удзельнікаў VII літаратурна-творчага конкурсу, прысвечанага 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў / Дзяржынскі раённы выканаўчы камітэт, Аддзел ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі, Дзяржынская цэнтральная раённая бібліятэка; [укладальнік Лебядзеўская Наталля Іванаўна]. — Мінск: Печанко А. Г., 2014. — 107 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 160 экз. — ISBN 978-985-7053-60-5.

**Караткевіч, У. С.** Збор твораў: у 25 т. / Уладзімір Караткевіч; рэдкалегія: Алесь Бельскі [і інш.; прадмова, падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі Анатоля Вераб'я]; Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Філалагічны факультэт. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012— — ISBN 978-985-02-1366-2 (у пер.).

Т. 6: Леаніды не вернуцца да Зямлі: раман амаль што сентыментальны / рэдактар тома Анатоль Верабей; [падрыхтоўка тэксту, каментарыі і пасляслоўе Генадзя Кажамякіна]. — 2014. — 459 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1550-5.

**Конан, М.** Юргінія: раман у 6 ч. / Міхась Конан; [уступныя артыкулы П. А. Ламана, У. У. Сауліча]. — Віцебск: Віцебская абласная друкарня, 2014. — 254 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-534-057-8 (у пер.).

**Корнеў, А. К.** «Узвівайся, што стрыж, мінівершык спарыш»: двувершы / Алесь Корнеў. — Брэст: Альтернатива, 2014. — 243 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-521-437-4.

**Мельнічук, І. М.** Гасцінец: вершы, байкі, гумарэскі / Іван Мельнічук. — Брэст: Альтернатива, 2014. — 95 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-521-442-8.

**Палачанскі, А. С.** Мой цвік: апавяданні / Аляксей Палачанскі. — Мінск: Галіяфы, 2014. — 105 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7021-46-8.

**Парчук, Н. М.** Берагі надзеі: зборнік паэзіі / Надзея Парчук. — Брэст: Альтернатива, 2014. — 157 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-521-431-2.

**Трысцень, І. І.** Летні дождж: [вершы, апавяданні] / Іван Трысцень. — Мінск: Ковчег, 2014. — 106 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7055-53-1.

**Хацкевіч, А. Я.** Беларуская валошка: паэтычны зборнік / Аксана Хацкевіч. — Мінск: Печанко А. Г., 2014. — 92 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7053-58-2.

**Шамякін, І. П.** Збор твораў: у 23 т. / Іван Шамякін; рэдкалегія: У. В. Гніламёдаў [і інш.]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2010— — ISBN 978-985-02-1190-3 (у пер.).

Т. 19: Злая зорка: раман / ... Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры; рэдактары тома: Н. В. Гальго, М. М. Караткоў; [падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі Алены Васілевіч і Наталлі Дзенісюк; пасляслоўе Мікалая Караткова]. — 2014. — 404 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-02-1543-7.

Т. 20: Вялікая княгіня; Губернатар: раманы / ... Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры ; рэдактары тома: Т. В. Бельская, А. А. Васілевіч; [падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі Клаўдзіі Казыры, Вольгі Карачун; пасляслоўе Таццяны Бельскай]. — 2014. — 446 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-02-1569-7.



***Саламаха, У. П. Літаратура: застаецца сапраўднае: эсэ, артыкулы, дыялогі / Уладзімір Саламаха. — Мінск: Звязда, 2014. — 271 с. — 600 экз. — ISBN 978-985-7083-43-5 (у пер.).***

*Выданні, што цалкам складаюцца з літаратурна-крытычных артыкулаў, не часта з'яўляюцца сёння. Зазвычай тэксты крытыкаў раскіданыя па газетах і часопісах, інтэрнэт-сайтах… Аднак сабраныя разам, яны могуць не проста распавесці пра кнігі і аўтараў, але і больш шырока прадставіць карціну сучаснага літаратурнага працэсу краіны. Вось і кніга пісьменніка і крытыка Уладзіміра Саламахі, куды ўвайшлі эсэ, артыкулы і дыялогі з калегамі, — гэта не проста зборнік асобных маленькіх работ. Тут можна пазнаёміцца з развагамі аўтара пра адметнасці літаратурнага працэсу, думкамі пра сутнасць мастацтва і працы мастака. Пісьменніцкае бачанне ролі творцы ў жыцці грамадства можа стаць нагодай для дыскусіі.*

### Кітайская літаратура

**Сунь-цзы.** Самые остроумные афоризмы и цитаты. Искусство войны / Сунь-цзы; [перевод Н. И. Конрада]. — Москва: АСТ, 2014. — 158 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-086168-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3246-6 (Харвест) (в пер.).

### Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва

**Алексин, А. Г.** В стране вечных каникул: [повести: для среднего школьного возраста] / Анатолий Алексин; художник И. Чукавина. — Москва: АСТ, 2014. — 349 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 1500 экз. — ISBN 978-5-17-085204-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3190-2 (Харвест) (в пер.).

**Барто, А. Л.** Стихи: [для дошкольного возраста / А. Барто]; рисунки И. Цыганкова. — Тула: Родничок; Москва: АСТ, 2014. — 44 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Автор указан на переплете. — 5000 экз. — ISBN 978-5-89624-578-0 (Родничок). — ISBN 978-5-17-084606-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2949-7 (Харвест) (в пер.).

**Бобовое зернышко:** текст адаптирован для начинающих читателей: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Л. М. Михайленко]. — Минск: Сказ, 2014. — 14 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-126-3.

**Большая хрестоматия:** для 1—4-х классов: [произведения школьной программы]. — Москва: АСТ, 2014. — 270 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-080013-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2609-0 (Харвест) (в пер.).

**Верн, Ж.** Путешествие к центру Земли: [роман] / Жюль Верн; [перевод с французского Н. А. Егорова]. — Москва: АСТ, 2014. — 284 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-17-086422-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3335-7 (Харвест) (в пер.).

**Веселые стихи о школе и не только:** [для младшего школьного возраста] / художники: Ф. Лемкуль [и др.]. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 78 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Содержит авторов: Барто А., Маршак С., Михалков С. — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-082494-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2563-5 (Харвест) (в пер.).

**Воўк і Ліса:** [руская народная казка : для дашкольнага ўзросту]. — Мінск: Харвест, 2014. — 10 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-2930-5.

**Горький, М.** На дне: пьеса, рассказы / Максим Горький. — Минск: Мастацкая літаратура, 2014. — 135 с. — 31000 экз. — ISBN 978-985-02-1566-6 (в пер.).

**Дамок:** [руская народная казка: для дашкольнага ўзросту]. — Мінск: Харвест, 2014. — 10 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-2931-2.

**Два жадных медвежонка:** текст адаптирован для начинающих читателей: [венгерская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник К. В. Остахов]. — Минск: Сказ, 2014. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-130-0.

**Двое прагных мядзведзікаў:** [венгерская народная казка: для дашкольнага ўзросту]. — Мінск: Харвест, 2014. — 10 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-2934-3.

**Жаба и Тигр:** текст адаптирован для начинающих читателей: [китайская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Е. Б. Суша]. — Минск: Сказ, 2014. — 14 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-127-0.

**Житков, Б. С.** Рассказы о детях: [для младшего школьного возраста] / Б. Житков; художник И. Семенюк. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 93 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-085676-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3124-7 (Харвест).

**Зощенко, М. М.** Веселые рассказы для детей: [для младшего школьного возраста] / М. Зощенко; художник А. Андреев. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 78 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-082356-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2531-4 (Харвест) (в пер.).

**Иванова, Н. В.** Теплые слова: [стихи: для младшего и среднего школьного возраста] / Наталья Иванова; [художник Алина Кисляк]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2014. — 16 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-511-731-6.

**Как собака друга искала:** текст адаптирован для начинающих читателей: [мордовская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Р. В. Синкевич]. — Минск: Сказ, 2014. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-131-7.

**Карапетьян, Р. А.** Тайны нашего двора: [для младшего и среднего школьного возраста] / Рустам Карапетьян; [художник Татьяна Заяц]. — Минск: В. Т. Квилория, 2014. — 31 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-43-0.

**Киплинг, Р.** Сказки: [для младшего школьного возраста] / Р. Киплинг; художник Е. Шумкова. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 91 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-085692-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3103-2 (Харвест) (в пер.).

**Кот, Ліса і Пеўнік:** [руская народная казка: для дашкольнага ўзросту]. — Мінск: Харвест, 2014. — 10 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-2929-9.

**Кощей Бессмертный:** [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник К. В. Остахов]. — Минск: Сказ, 2014. — 14 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-148-5.

**Любимые маленькие сказки:** [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)]. — Москва: АСТ, 2014. — 38 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-083407-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1880-4 (Харвест) (в пер.).

**Малец-з-палец:** [руская народная казка: для дашкольнага ўзросту]. — Мінск: Харвест, 2014. — 10 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-2923-7.

**Мамин-Сибиряк, Д. Н.** Аленушкины сказки: [для младшего школьного возраста] / Д. Н. Мамин-Сибиряк; художник Г. Юдин. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 77 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-084025-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2781-3 (Харвест) (в пер.).

**Манечка і Мядзведзь:** [руская народная казка: для дашкольнага ўзросту]. — Мінск: Харвест, 2014. — 10 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-2933-6.

**Маршак, С. Я.** Все самые знаменитые стихи: [для дошкольного возраста] / С. Маршак. — Москва: АСТ, 2014. — 478 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-081742-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3301-2 (Харвест) (в пер.).

**Маршак, С. Я.** Детки в клетке: [для дошкольного возраста] / С. Маршак; рисунки С. Бордюга и Н. Трепенок. — Москва: АСТ, 2014. — 44 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-081231-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2489-8 (Харвест) (в пер.).

**Маршак, С. Я.** Карусель: [стихи: для дошкольного возраста] / С. Маршак; рисунки Г. Соколова. — Москва: АСТ, 2014. — 46 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-083599-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3112-4 (Харвест) (в пер.).

**Маршак, С. Я.** Кошкин дом: сказка-пьеса: [(в сокращении): для детей до 3 лет: (для чтения родителями детям)] / С. Маршак; художники: Т. Сазонова, К. Прыткова, Ю. Романенко. — Москва: АСТ, 2014. — 44 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-085009-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3020-2 (Харвест) (в пер.).

**Маршак, С. Я.** Кошкин дом: [сказка-пьеса: для младшего школьного возраста] / С. Маршак; художники: Т. Сазонова, К. Прыткова, Ю. Романенко. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 62 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 10000 экз. — ISBN 978-5-17-086192-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3193-3 (Харвест) (в пер.).

**Маршак, С. Я.** Стихи, песенки, загадки: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / С. Маршак. — Москва: АСТ, 2014. — 190 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-077144-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2607-6 (Харвест) (в пер.).

**Матюшкина, К.** Трикси-Фикси и волшебный бал: [для младшего школьного возраста] / Катя Матюшкина. — Москва: АСТ, 2014. — 75 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 1500 экз. — ISBN 978-5-17-085-131-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3231-2 (Харвест) (в пер.).

**Михалков, С. В.** Любимые стихи: [для младшего школьного возраста] / С. Михалков; художник В. Чижиков. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 77 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-082519-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2565-9 (Харвест) (в пер.).

**Михалков, С. В.** Маленькие сказки о маленьких зверятах: [басни: для дошкольного возраста] / С. Михалков; [художники: С. Бордюг и Н. Трепенок]. — Москва: АСТ, 2014. — 44 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-078806-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2120-0 (Харвест) (в пер.).

**Михалков, С. В.** Праздник непослушания: [для младшего школьного возраста] / С. Михалков; художник В. Чижиков. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 62 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-085256-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3182-7 (Харвест) (в пер.).

**Михалков, С. В.** Сказки в стихах: [для дошкольного возраста] / С. Михалков; рисунки В. Сутеева. — Москва: АСТ, 2014. — 29 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-084552-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2963-3 (Харвест) (в пер.).



***Гордэр, Ю. Сафіін свет: раман пра гісторыю філасофіі / Юстэйн Гордэр; пераклад з нарвежскай [Лідыі Ёхансан]. — Мінск: Зміцер Колас, 2014. — 558 с. — Тытульны л. паралельна на нарвежскай і беларускай мовах. — 500 экз. — ISBN 978-985-6992-45-5 (у пер.).***

*Што атрымаецца, калі змяшаць філасофію, містыку і постмадэрнісцкі стыль напісання? Многія зараз прыгадаюць імя італьянца Умбэрта Эка, але ёсць іншы варыянт адказу. Гаворка ідзе пра раман «Сафіін свет» нарвежца Юстэйна Гордэра. Сюжэт кнігі разгортваецца вакол загадкавых лістоў з лекцыямі і заданнямі па філасофіі, якія пятнаццацігадовая школьніца Сафія атрымлівае ад невядомага маёра батальёна ААН. Больш за тое, Сафія мусіць перадаваць дзіўныя пасланні дачцэ маёра Хільдзе. Расповед пабудаваны такім чынам, што чытач, сам таго не заўважаючы, апынаецца ўцягнутым у гэтую незвычайную гульню.*

**Михалков, С. В.** Стихи: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / С. Михалков; [художники: Е. Гальдяева, В. Сутеев, Б. Тржемецкий]. — Москва: АСТ, 2014. — 46 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-077352-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1759-3 (Харвест) (в пер.).

**Науменко, Г. М.** Мифы русского народа: [для младшего школьного возраста] / Г. М. Науменко; художник И. Цыганков. — Москва: АСТ: Астрель; Тула: Родничок, 2014. — 76 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-084609-2 (АСТ). — ISBN 978-5-89624-581-0 (Родничок). — ISBN 978-985-18-3113-1 (Харвест) (в пер.).

**Остер, Г. Б.** Вредные советы: [для младшего школьного возраста] / Г. Остер; художник А. Мартынов. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 79 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-085086-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3048-6 (Харвест) (в пер.).

**Остер, Г. Б.** Котенок по имени Гав: сказочные истории: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / Г. Остер; [художники: Г. Алимов и др.]. — Москва: АСТ, 2014. — 38 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-084204-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3037-0 (Харвест) (в пер.).

**Пеўнік і Курачка:** [руская народная казка: для дашкольнага ўзросту]. — Мінск: Харвест, 2014. — 10 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-2932-9.

**Пляцковский, М. С.** Сказки про зверей в рисунках В. Сутеева: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / М. Пляцковский. — Москва: АСТ, 2014. — 46 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-083810-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2785-1 (Харвест) (в пер.).

**Потешки, прибаутки:** [русские народные потешки: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Л. М. Михайленко]. — Минск: Сказ, 2014. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-136-2.

**Рассказы и сказки о животных:** [для младшего школьного возраста] / художник И. Цыганков. — Тула: Родничок; Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 76 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Содержит авторов: Бианки В., Пришвин М., Сладков Н., Шим Э. — 5000 экз. — ISBN 978-5-89624-569-8 (Родничок). — ISBN 978-5-17-082373-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2663-2 (Харвест) (в пер.).

**Родничок:** хрестоматия для детей младшего школьного возраста / [составитель Раиса Шастак]. — 8-е изд. — Минск: Родиола-плюс, 2014. — 525 с. — Издано при участии ООО «Попурри» (Минск). — 5100 экз. — ISBN 978-985-448-122-7 (в пер.).



***Муха, Р. Однажды, а может быть, дважды: стихи для бывших детей и будущих взрослых / Рената Муха; [художник Татьяна Сучкова]. — Минск: МЕТ, 2014. — 78 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-436-604-3 (в пер.).***

*Кажуць, што якасць кнігі вымяраецца колькасцю перавыданняў. Калі лік ахвотных пазнаёміцца з творам большы за першы, другі, трэці тыражы, — перад намі безумоўны аўтарытэт. Думаецца, так можна казаць і пра паэтэсу Рэнату Муху, чый зборнік вершаў «для былых дзяцей і будучых дарослых», пабачыўшы свет некалькімі накладамі, застаецца любімым сярод мноства чытачоў рознага ўзросту. Выдатныя ілюстрацыі, добрыя, шчырыя і смешныя вершы — вось сакрэт поспеху гэтай кнігі. Вы яшчэ не знаёмыя з сабакам, які пакрыўдзіўся на гаспадароў, калі яго назвалі злым, са сланом, якому патрэбная насоўка для хобата, ці прыбранымі пінгвінамі? Тады смела адгортвайце кнігу Рэнаты Мухі! Прыемнага знаёмства.*

**Рэпка:** [руская народная казка: для дашкольнага ўзросту]. — Мінск: Харвест, 2014. — 10 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-2935-0.

**Самые любимые русские сказки:** [для дошкольного возраста]. — Москва: АСТ, 2014. — 45 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-084557-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2965-7 (Харвест) (в пер.).

**Синявский, П. А.** Мы подружились в детском саду: [для дошкольного возраста] / П. Синявский. — Москва: АСТ, 2014. — 123 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-083544-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2951-0 (Харвест) (в пер.).

**Сказки для самых маленьких:** [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям) / басни И. А. Крылова, сказки в пересказе Е. Каргановой, С. Летовой, М. Тарловского]; рисунки Тони Вульфа. — Москва: АСТ, 2014. — 42 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-086285-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2031-9 (Харвест) (в пер.).

**Соломенный бычок:** текст адаптирован для начинающих читателей: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник К. В. Остахов]. — Минск: Сказ, 2014. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-132-4.

**100 загадок и сказок для малышей про животных:** [для младшего школьного возраста / составитель В. Г. Дмитриева]. — Москва: АСТ, 2014. — 191 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-085931-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3192-6 (Харвест) (в пер.).

**Сутеев, В. Г.** Кораблик: [сказки: для дошкольного возраста] / В. Сутеев; рисунки автора. — Москва: АСТ, 2014. — 46 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-082214-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2617-5 (Харвест) (в пер.).

**Сутеев, В. Г.** Кто сказал «мяу»?: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / В. Сутеев; рисунки автора. — Москва: АСТ, 2014. — 45 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-078373-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1299-4 (Харвест) (в пер.).

**Сутеев, В. Г.** Сказки-мультфильмы В. Сутеева: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / рисунки автора. — Москва: АСТ, 2014. — 45 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-077641-2 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2105-7 (Харвест) (в пер.).

**Толстой, Л. Н.** Рассказы для детей: [для младшего школьного возраста] / Л. Толстой; художники: О. и А. Ивановы [и др.]. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 77 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-082758-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2620-5 (Харвест) (в пер.).

**Топелиус, З.** Дважды два = четыре: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / З. Топелиус; [художник К. В. Остахов]. — Минск: Сказ, 2014. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-135-5.

**Три поросенка:** [текст адаптирован для начинающих читателей: английская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Е. Б. Белозерцева]. — Минск: Сказ, 2014. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-133-1.

**Тры парсючкі:** [англійская народная казка]: для дашкольнага ўзросту. — Мінск: Харвест, 2014. — 10 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-2927-5.

**Тры сябрукі:** [руская народная казка: для дашкольнага ўзросту]. — Мінск: Харвест, 2014. — 10 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-2922-0.

**Успенский, Э. Н.** Смешные рассказы для детей: [для младшего школьного возраста] / Э. Успенский; художники: И. Олейников, К. Павлова. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 74 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-082789-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2624-3 (Харвест) (в пер.).

**Успенский, Э. Н.** Трое из Простоквашино: [для дошкольного возраста] / сценарий Э. Успенского; [художники-постановщики: Н. Ерыкалов, Л. Хачатрян]. — Москва: АСТ, 2014. — 45 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-081079-6 (АСТ). — ISBN 978-985-16-8490-4 (Харвест) (в пер.).

**Ушинский, К. Д.** Чужое яичко: текст адаптирован для начинающих читателей : [для дошкольного и младшего школьного возраста] / К. Д. Ушинский ; [художник С. А. Самсоненко]. — Минск: Сказ, 2014. — 14 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-129-4.

**Хармс, Д. И.** Вышел зайчик погулять: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Д. Хармс; [художник К. В. Остахов]. — Минск: Сказ, 2014. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-134-8.

**Харрис, Д. Ч.** Сказки дядюшки Римуса: [для детей младшего школьного возраста] / Дж. Харрис; художник И. Кострина. — Москва: АСТ: Астрель, 2014. — 94 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-084944-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2993-0 (Харвест) (в пер.).

**Цярэшка:** [руская народная казка: для дашкольнага ўзросту]. — Мінск: Харвест, 2014. — 10 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-2924-4.

**Чудо-птица:** текст адаптирован для начинающих читателей: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / художник Л. М. Михайленко]. — Минск: Сказ, 2014. — 14 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-128-7.

**Чуковский, К. И.** Сказки для малышей: [для дошкольного возраста] / К. Чуковский; рисунки С. Бордюга и Н. Трепенок. — Москва: АСТ, 2014. — 29 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-084172-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3084-4 (Харвест) (в пер.). — ISBN 985-18-3084-4 (ошибоч.).

**Чуковский, К. И.** Сказки и стихи: [для дошкольного возраста: (для чтения взрослыми детям)] / К. Чуковский; рисунки С. Бордюга и Н. Трепенок, И. Глазова. — Москва: АСТ, 2014. — 154 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-079285-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-3194-0 (Харвест) (в пер.).

**Шапиро, Т. Л.** В доме светятся окошки: [стихи: для дошкольного и младшего школьного возраста] / Татьяна Шапиро; [художник Людмила Баирова]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2014. — 15 с. — Издано при участии редакции газеты «Воскресение» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-985-511-707-1.

**Як дзеці ў гай уцяклі:** [для дашкольнага ўзросту]. — Мінск: Харвест, 2014. — 10 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-2928-2.

*Нестандартны падыход*

# Класіка без прымусу




Ганна Севярынец.

З мінулага лета на жаночым партале *Velvet.by* збіраецца віртуальны клуб чытачоў сучаснай беларускай прозы. Другі праект — «Чытаем сваё. Класіка» — серыя літаратурных сустрэч, якія ладзяцца ў Літаратурным музеі Петруся Броўкі. На апошнім мерапрыемстве, прысвечаным творчасці Уладзіміра Дубоўкі, Ганна Севярынец насуперак акадэмічнай традыцыі абвясціла беларускую літаратуру вельмі маладой, а таму і вельмі цікавай! Замест доўгай храналогіі наведвальнікі пачулі мноства яркіх гісторый (пераважна пра Дубоўку-чалавека, а не Дубоўку-паэта), а таксама далучыліся да выбару акцёра на ролю паэта ў першым беларускім блокбастары. Літаратурныя сустрэчы яшчэ неаднойчы адбудуцца на Карла Маркса, 30 — а напярэдадні чаму б не пазнаёміцца бліжэй з іх галоўным арганізатарам Ганнай Севярынец.

**— Спадарыня Ганна, што падштурхнула вас да стварэння ўласных культурных праектаў?**

— Па адукацыі я рускі філолаг, выкладала рускую літаратуру ў школе, у прыватным інстытуце — і бачыла, што яе не чытаюць, бо цягам вучобы фарміруецца трывалы недавер да твораў са школьнай праграмы. Цягам апошніх трох гадоў у мяне выйшлі тры кнігі, прысвечаныя творам са школьнай праграмы па рускай літаратуры — усе тры ў Расіі. Дзве першыя напісаны ў суаўтарстве, трэцяя — «Смайлик, фейк и другие изобретения русских писателей» — мая асабістая. Гэтыя кнігі — не звычайнае школьнае занудства — яны ў першую чаргу накіраваныя на тое, каб зрабіць рускую літаратуру цікавай для дзяцей і іх настаўнікаў.

**— Наколькі паспяховымі былі вашы выданні?**

— Першыя кнігі мелі наклад дзве з паловай тысячы кожная — і ўжо разышліся, хаця асаблівых водгукаў не было. Што датычыцць трэцяй кнігі, то падыход Вальтэра і Дзідро «забаўляй і навучай» апынуўся запатрабаваным. Кніга са снежня друкуецца часткамі ў маскоўскай «Літаратуры», днямі ў мяне будзе скайп-канферэнцыя з мурманскай бібліятэкай. Кніжку чытаюць, яна падабаецца. Нестандартны падыход прываблівае — гэта патрэбна пры вывучэнні літаратуры, але нячаста выкарыстоўваецца ў нашых школах. Ну навошта гэты пераказ біяграфічных звестак, да таго ж — рэтушаваны пурытанскай школьнай традыцыяй? Усё гэта сёння можна лёгка знайсці ў сеціве, а вось іскру, захапленне, натхненне — гэтага ў інтэрнэце не адшукаеш.

**— Якім чынам вы ад рускай літаратуры перайшлі да беларускай?**

— Скажу шчыра, што ў школе і ва ўніверсітэце беларускіх пісьменнікаў не чытала, хаця ведала ўніверсітэцкую праграму. Я ахвяра школьнага белліту, ён мне ніколі не падабаўся, прычым не падабаўся агрэсіўна. Калі ж мае кнігі пачалі выходзіць на расійскі рынак, прачнулася сумленне. Думаю: не можа быць нецікавай літаратура, калі яна — свая. Я распачала серыю інтэрв'ю з беларускімі літаратарамі, і апынулася, што вартая захаплення беларуская літаратура ёсць!

Я адкрывала для сябе не школьны безжыццёвы — а рэальны цікавы беларускі літаратурны сусвет. Пачала сур'ёзна, ужо як след, чытаць класіку, крытыку, біяграфіі, успаміны... Але чытаць адной сумна. Таму распачала на партале *Velvet.by* праект «Чытаем сваё» — віртуальны клуб чытачоў беларускай літаратуры. Адбіраю кнігі, з якімі мне самой цікава было б пазнаёміцца. Мы чытаем іх разам з карыстальнікамі, потым абмяркоўваем. Папрасілася весці беларускую літаратуру ў Смалявіцкай гімназіі, заняткі пачаліся... Чытанне літаратуры са школьнікамі — вельмі своеасаблівы досвед!

Беларуская літаратура ўва мне ўкаранялася, пускала парасткі… І тут здарыўся інсайт — я нанова прачытала быкаўскі «Знак бяды» і зразумела, што гэта наогул ледзь не найлепшы твор у сусветнай літаратуры. Я не маю на ўвазе тэматыку, адлюстраванне вайны. Справа ў мастацкіх якасцях, і не важна, якой тэме твор прысвечаны. Мы зрабілі неверагодныя заняткі па «Знаку бяды», сто працэнтаў маіх вучняў прачыталі аповесць — а ў адной дзяўчынкі яе прачытала навал маці. Я зразумела, што ўжо гатовая дзяліцца сваёй беларускай літаратурай з кімсьці яшчэ. Расказала пра праект «Чытаем сваё. Класіка» ў музеі Петруся Броўкі, і там падтрымалі гэту ідэю. Я вельмі ўдзячная загадчыцы музея Наталлі Мізон і сваёй цудоўнай куратарцы Таццяне Ткачовай: супрацоўнікі музея робяць неверагодныя рэчы! Для апошняй сустрэчы яны знайшлі ўнікальныя архіўныя экспанаты, якія ўпершыню выстаўляліся падчас імпрэзы. Дзякуючы невялікай экспазіцыі праект набыў бляск і ўзровень.

> *«Ведаць і любіць — гэта асабістае пачуццё, а ўмець падзяліцца асабістым — ужо мастацтва. Ці прэтэндуем мы на тое, каб зрабіць наша разуменне літаратуры даступным і ўсеагульным? Безумоўна. (...) Задачу атрымалася вырашыць праз уважлівае стаўленне да літаратуры як да факта нашага жыцця. Дапамог і вопыт неабыякавага чытання і жывой падачы літаратурнага працэсу ў практыцы стасункаў са звычайнымі сучаснымі студэнтамі, далёкімі ад праблематыкі сусветнага культурнага працэсу».*
>
> Всемирная литература в лицах, фактах и комментариях / А. К. Северинец, М. Л. Лебедева, О. Л. Кореонькова. — Ростов-на-Дону : Феникс, 2014.

**— Ці наведвалі вы музейныя мерапрыемствы, каб знайсці свой фармат літаратурных сустрэч?**

— Я дастаткова добра паддаюся ўплывам. Таму даўно заўважыла парадаксальную рэч: каб не трапіць пад уплыў, трэба адпачатку нічога не ведаць. Калі ж «увязваюся ў бойку» і адчуваю, што нешта не атрымліваецца (напрыклад, апошняя сустрэча па Дубоўку мяне не задавальняе), тады іду вучыцца, прыглядацца. Вядома, я чытаю справаздачы з мерапрыемстваў, наведваю музеі разам з дзецьмі, але ж імпрэзы, падобныя на мае, не гляджу наўмысна.

**— Якія ўспаміны ад музеяў?**

— Сумныя. Бо пад прымусам. Я папрасіла ўсіх, з кім маю стасункі па гэтым праекце: «Толькі не прымушайце дзяцей! Лепш няхай іх будзе два альбо тры». Я не ўмею працаваць пад прымусам, я не адчуваю аўдыторыі, на мяне ідзе каменны холад, — і гэта непатрэбна. Свой адзінаццаты клас я прываблівыаю на мерапрыемствы «цукеркамі». Стаўлю дзясяткі, абяцаю стужачкі з арнаментам...

**— Давайце вернемся да вашага віртуальнага праекта. Ці шмат наведвальнікаў «чытаюць разам»?**

— Гэта вопыт для мяне вельмі незвычайны. Першая віртуальная сустрэча была па кнізе «Рома едзе». Аўтар — Рома Свечнікаў, студэнт БНТУ, які вандруе па свеце і піша нататкі. Малады хлопец, прыгожы — толькі такіх і чытаюць! (*Смяецца.*) Яго кніга — хутчэй не мастацкая літаратура, а трэвэл-блог. Як ні дзіўна, я раздала пад 200 спасылак — гэта значыць, 200 чалавек прыйшлі і прачыталі беларускую кнігу.

**— «Чытаем разам» — доўгатэрміновы праект? Якія далейшыя планы?**

— Лічу, што бестэрміновы. Цяпер удасканальваюся, бо бачу, што чакаць людзей з вуліцы не варта, трэба напрацоўваць уласную аўдыторыю. Найперш хачу, каб былі дзеці, якія трапяць на маю хвалю і будуць удзельнічаць у сустрэчах. Бо мэта — зусім не стаяць у цэнтры і самой распавядаць. Мэта — зацікавіць. Але дарослых мы таксама вітаем! У красавіку адбудзецца сустрэча па творчасці Адама Бабарэкі.

**— Навошта сучаснай беларускай моладзі ведаць Дубоўку, Бабарэку, пісьменнікаў-класікаў?..**

— На гэта пытанне існуе шмат няправільных адказаў, якія мы на занятках убіваем дзецям у галаву. Напрыклад: «трэба ведаць, бо гэта нашая родная літаратура», «бо гэтыя кніжкі вучаць жыццю», «бо без сваёй літаратуры не бывае сваёй краіны». Абсалютна правільна, але з дзецьмі не працуе! Разумееце, нашыя пісьменнікі жылі ў тых самых кліматычных, палітычных, сацыяльных, ментальных умовах, у якіх жыву я. Яны размаўлялі на той мове — у адрозненні ад мяне рускамоўнай, — якая адпавядала гэтаму асяроддзю. У адрозненне ад усіх рускамоўных беларусаў, яны — адпаведныя, рэлевантныя гэтай зямлі.



Швейцарскі гадзіннік Уладзіміра Дубоўкі і ліст да Петруся Броўкі.

Мы карыстаемся рускай мовай у жыцці, але гэта мова экстравертнага вялікага народа, мова неабсяжных прастораў, мова з вялікімі сінанімічнымі магчымасцямі. Беларуская мова — гэта мова інтравертаў, людзей, сканцэнтраваных на сабе, на сваёй зямлі, на сваім доме. Нельга патлумачыць самога сябе на чужой мове. У жыцці ўсё будзе не зусім так, як ты хочаш, бо карыстаешся для гэтага не сваімі інструментамі. Гэта — як працаваць у садзе. Калі б мне далі не маленькую пілу на маю руку, а вялікую пілу, разлічаную на асілка, я б нічога з ёю не зрабіла! Беларускія пісьменнікі жылі з такімі ж, як мы, людзьмі і праблемамі. Нам няма ў каго браць гэты досвед, акрамя тых, хто пісаў па-беларуску. Бо ўсе іншыя пісалі на іншых мовах, а мова — гэта ментальнасць. Я ведаю гэта па сабе. Прафесійна валодаю рускай мовай, але ўсё жыццё адчувала, што яна большая за мяне. Яна ад мяне патрабуе таго, чаго не магу на ёй сказаць. А беларуская мова мне адпавядае — як сукенка, пашытая па памеры.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

*Парады пачаткоўца*



**Ігар ПАЛЯКОЎ**

# Прамая і кропкі гісторыі

У мінулым артыкуле «Мастацтва канфлікту» я трохі распавёў, на чым будуецца гісторыя. Сёння вашай увазе — правілы, якія дапамогуць пабудаваць структуру аповесці.

На жаль ці на шчасце, але ўсё, што было напісана да нас і будзе напісана пасля, грунтуецца на жорсткіх законах драматургіі. Для мяне як для логіка гэта добра — дапамагае сачыць за тым, каб думка не ўцякала занадта далёка. Супакою творчых асоб: ваша творчасць нікуды не падзенецца! Уявіце, што гэтая структура — усяго толькі палатно ў рамцы, на якім вы будзеце маляваць усё, што падказвае фантазія.

Правядзіце на паперы прамую — гэта ваш аповед. Трыма кропкамі падзяліце яго на чатыры роўныя часткі. Першы адрэзак — гэта экспазіцыя — апісанне таго, што папярэднічае развіццю сюжэта: героі рамана, іх характары, месца дзеяння, час, абставіны — увогуле, усё тое, што пераносіць чытача ў свет вашых персанажаў, зробіць яго бачным і адчувальным.

Мы падышлі да першай кропкі — завязкі, альбо контрапункта, паваротнага моманту. Цяпер падумайце, які тут канфлікт? Што парушыць і зменіць плынь жыцця герояў? Менавіта гэтая кропка прымусіць чытача не закрываць кнігу да апошняй старонкі. Напрыклад, у Стакгольме жыў-быў хлопчык, адзінае дзіця ў сям'і, і калі бацькі сыходзілі на працу, яму станавілася сумна, ён марыў пра ўласнага сабаку. І неяк ён убачыў у акне мужчыну з прапелерам на спіне... Паварот!

Каб не прапусціць паваротны пункт у сваім творы, прыдумайце фразу-формулу, накшталт: «Раптам пазванілі ў дзверы, а там...» І памятайце: у дзверы павінны пазваніць своечасова!

У другім і астатніх адрэзках героям трэба, нарэшце, трапіць у прыгоды. Але каб падзеі і прыгоды былі жывымі і лагічнымі, варта запомніць адно грэчаскае слова — «перыпетыя», то бок «раптоўная змена ў жыцці, нечаканае ўскладненне». Вашы героі павінны трапіць у перыпетыі. Гэта значыць, што з кожным эпізодам, раздзелам, актам жыццё героя павінна ўскладняцца! А пасля кожнага эпізоду жыццё мусіць змяняцца! Гэтую схему вызначыць проста. Уявіце графік: лінія ўгару і тут жа ўніз, потым ізноў угару. Так персанажы і павінны жыць у расповедзе, калі казаць пафасна, гайдацца «на арэлях лёсу».

Такім чынам, мы падышлі да трэцяга паваротнага пункта — кульмінацыі. Гэта кропка, дзе героі перажываюць самае высокае напружанне, яе таксама можна назваць кропкай невяртання — крок, які ўжо ніяк не выправіш. Успомніце Бруса Уіліса, які выправіўся ратаваць зямлю ад астэроіда… Кульмінацыя — тое, дачаго герой ішоў усю кнігу. А, магчыма, уцякаў, спалохаўшыся напачатку. Тое, з чым ён павінен абавязкова сустрэцца і выйсці пераможцам.

Апошні адрэзак — развязка. Часта яна вынікае адразу з кульмінацыі. На гэтай фінішнай прамой вы павінны развязаць усе вузельчыкі, завязаныя ў кожнай кропцы! Такая вось драматургічная бухгалтэрыя. Кожны з герояў, нават другасны, мусіць атрымаць па заслугах — у гэтым і заключаецца баланс кніжнага сусвету.

Яшчэ раз паўтару: не трэба баяцца схем. Больш за тое, напісаўшы кнігу па натхненні, ідучы выключна па шляху сюжэта, вы здзівіцеся: усё больш-менш уклалася менавіта на такую вось прамую, якая ідзе праз тры кропкі.

Хаця не — чатыры. Але апошняя ўжо не залежыць ад схем — гэта катарсіс.



Рыма Ханінава.

# Вера, вернасць

Рыма Ханінава, чый юбілей адзначаюць у Калмыкіі на гэтым тыдні, — дачка слаўнага паэта-партызана Міхаіла Хонінава. Чалавека, які пакінуў свой след не толькі на лясных сцежках Беларусі, але і — у беларускай культуры, у беларускай літаратуры. Сябраваў, ліставаўся з многімі айчыннымі пісьменнікамі. Двойчы яго кнігі выходзілі ў Мінску па-беларуску.

Рыма Ханінава — загадчык кафедры рускай і замежнай літаратуры Калмыцкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Адна з яе манаграфій прысвечана паэтыцы малой прозы Усевалада Іванова. Двойчы выпусціла манаграфіі пра літаратурны дыялог, падабенства і адрознасці ў творчым лёсе Давіда Кугульцінава і Міхаіла Хонінава. Бацьку прысвяціла і зборнік матэрыялаў «Другога лёсу не трэба: жыццё і творчасць Міхаіла Хонінава».

Сама піша на рускай мове. З прозай выступае ў друку з 1982 года. Вершы ўпершыню надрукавала ў 1989-м. Аўтар пяці паэм, некалькіх вершаваных зборнікаў. Творы Рымы Ханінавай перакладзены на калмыцкую, балкарскую, карачаеўскую, англійскую і беларускую мовы.

Шмат зроблена Рымай Міхайлаўнай па ўшанаванні памяці бацькі. Пісьменніца ліступецца з музеямі, бібліятэкамі, часта выступае ў друку. Праводзіць у Элісце конкурс сярод школьнікаў на лепшае чытанне вершаў Міхаіла Хонінава, падчас якога гучаць радкі партызанскага паэта, аўтара паэмы пра Хатынь, пра беларускі край, пра вогненныя гады Вялікай Айчыннай.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

## Балада пра вайну

*Душу*
*на часткі*
*мне*
*пакроіў*
*Распавед*
*даўняе*
*вайны,*
*Як з-пад аблогі*
*выйшлі*
*трое…*
*Бацькі камусь або сыны.*
*Адзін да сэрца*
*бохан хлеба,*
*Бы скарб найбольшы*
*прыціскаў.*
*Ды куля праздзінела —*
*глеба*
*Нявестай*
*стала*
*юнака.*
*А хлеб набрак*
*дажджом*
*крывавым…*
*Агульны,*
*быццам вырак іх.*
*Вайна,*
*бы плынь*
*чужой ракі,*
*Іх несла…*
*А яны трывалі*
*І хлеб*
*яны*
*ўзялі з сабой,*
*Хоць быў ён*
*з прысмакам*
*каліны.*
*І бохан той,*
*і лёс,*
*і боль*
*Яны*
*пароўну*
*падзялілі.*
*І памянулі ім*
*таго,*
*Хто больш ужо*
*не адзавецца…*
*Ён з трох — адзін…*
*Адзін — ды ў сэрцы*
*Заўжды я помню*
*пра яго.*

## Палыновы водар

Майму сыну Ільясу

*Ведаю ад сябра і ад брата*
*Пра паданне, што жыве здаўна*
*У гарах чачэнскіх. Вой ды ратай*
*Любяць яго словы ўспамінаць.*

*Колісь у Ічкеры застаўся*
*Слаўны хлопец, малады калмык,*
*Ханскі сын, ды ханам ён не зваўся,*
*Ён да звання іншага прывык.*

*Паланёны вейкамі дзяўчыны,*
*Ён знайшоў і дом тут, і сяброў,*
*Пра бацькоў ды пра сваю Айчыну*
*Памяць ён у сэрцы не збярог.*

*Тужыць хан стары, гады мінаюць —*
*Пасланцоў з лістамі не злічыць,*
*Колькі праздзінела светлых маяў,*
*Колькі зімаў… Ды юнак маўчыць.*

*І аднойчы хан не ліст для сына,*
*А мяшэчак вершніку аддаў,*
*Блаславіў у добрую часіну,*
*Каб бацькоў імёны прыгадаў.*

*Калі ж той бацькоўскі падарунак*
*Развязаў, знайшоўшы вольны час, —*
*Водар горкі, бы рука па струнах,*
*Па душы хлапечай праімчаў.*

*Водар стэпу, родны, палыновы,*
*Той, што з рук не сцерці і вятрам,*
*Той, што з неба кліча*
*ў шлях вясновы,*
*Што з душы здымае*
*камень-страх.*

*Гэты водар выбіраюць тыя,*
*Каму смак крынічнае вады*
*Даражэй за віны залатыя,*
*Даражэй за райскія сады.*

*І брыдуць з чужынаў караваны,*
*І дамоў вяртаюцца сыны,*
*Праз гады сягоння адчуваю,*
*Як душу палоняць палыны.*

## Начная трава

…Траве не бачна ў прыцемках
сваёй старасці…

А. П. Чэхаў

*У прыцемках і старасці не бачыць*
*Трава, што не зазнала халадоў.*
*А калі неба над травою плача,*
*Ёй падаецца, гэта проста дождж.*

*Трава — жыве, у ёй — не бачыць вока! —*
*Стракоча штосьці, да сябе заве.*
*Я чую, як растуць і смехам звонкім*
*Травінкі разбіваюць ціхі свет.*

*Так далікатна матылёк кранецца*
*Да рук яе — і схіліцца трава,*
*І не глядзіць, і нізка долу гнецца,*
*Каб толькі таямніц не адкрываць.*

*У прыцемках ёй весела і лёгка —*
*Няхай зямля палохае бядой:*
*І травы могуць навучыцца лётаць,*
*І старасць можа стацца маладой.*

**Пераклад з рускай мовы**
**Тацяны СІВЕЦ**

*Позірк*

# Асэнсоўваючы зямлю і неба

**Так сталася, што першае сваё апавяданне «Улазіны» Іван Стадольнік надрукаваў на старонках «ЛіМа» ў 1971 годзе. Для нас, яго сяброў і паплечнікаў па полацкай газеце «Сцяг камунізму», гэта была значная падзея. Хоць Іван быў не навічок у літаратуры і друкаваў у беларускай перыёдыцы свае вершы, у якасці празаіка ён раскрыўся зусім па-новаму.**

Сакавітая мова, назіральнасць, імкненне пранікнуць у псіхалагічны стан героя, гуманістычная аўтарская пазіцыя адразу прыцягнулі ўвагу чытачоў і крытыкі. А неўзабаве на адрас маладога празаіка прыйшоў ліст ад самога Янкі Брыля, дзе класік з прыхільнасцю вітаў з'яўленне твораў Стадольніка, зычыў яму плёну на пісьменніцкай ніве. Думаю, няцяжка ўявіць радасць маладога полацкага журналіста, бо, шчыра кажучы, мала хто з пачаткоўцаў можа пахваліцца такім дэбютам, такой шчырай прыхільнасцю і бацькоўскім клопатам з боку волатаў нашага прыгожага пісьменства.

Адно за адным сталі з'яўляцца Іванавы новыя творы. Памятаю, як у дзве гадзіны ночы чытаў ён мне па тэлефоне апавяданне «Бывай, Буланчык», як мы з Германам Кірылавам слухалі і абмяркоўвалі і тую ж «Бортку», якой адкрываецца зборнік прозы «Сёмае неба», што выйшаў нядаўна ў серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі», і іншыя толькі што напісаныя апавяданні.

Разам з успамінамі, якія прыйшлі, калі я перагарнуў апошнюю старонку прачытанай кнігі, пастукалася жаданне падзяліцца ўражаннямі ад прозы гэтага вельмі таленавітага пісьменніка, часам недастаткова «засвечанага» нашай літаратурнай крытыкай, нягледзячы на тыя высокія ацэнкі, якія не раз давалі Стадольніку ўдзячныя чытачы.

Магчыма, у сённяшнім патоку напісанага і надрукаванага творы Івана Стадольніка пададуцца некаму занадта традыцыйнымі: тут няма скандальных гісторый, эпатажу, «чарнухі» або дэтэктыўных прыгод. Але простыя жыццёвыя гісторыі, за якімі часта стаяць зусім канкрэтныя прататыпы, пад пяром аўтара становяцца шчымлівымі навеламі, што выклікаюць на роздум, ад якіх з'яўляецца лёгкая светлая самота — заўсёдны спадарожнік чуллівага одумнага стану, што наступае пасля дакранання да сапраўднай літаратуры.

Вось, да прыкладу, гісторыя з апавядання «Максімаў сад». Заўсёды, калі герой апавядання Васіль ішоў дамоў нацянькі, агародамі, яго як магнітам цягнула паглядзець на самы дагледжаны ў вёсцы сад. Гэты сад быў для яго гаспадара Максіма адхланнем і лёсам. Пасадзіўшы дрэвы адразу, як толькі вярнуўся з вайны, Максім песціў сад, як жывую істоту, не даваў нікому паквапіцца на яго плады.

«Чаго толькі не прыдумлялі хлопцы, каб як-небудзь украсціся ў Максімаў сад…

Але як толькі спрабаваў хто праблізіцца да яблыні ці грушы, як каршун налятаў Максім, нібы з-пад зямлі вырастаў…

Усе ў вёсцы толькі дзіву даваліся, адкуль у Максіма бралася і сілы, і хітрасці, і часу, каб гэтак спраўна ўпільноўваць свой сад. Калі пачынала спець садавіна, ён заўсёды быў там — і вечарам, і ранкам, і ў самую поўнач…

А яшчэ Максім дзень у дзень хадзіў на працу ў калгас. І ніколі ніхто не прыкмячаў, каб ён гультаяваў, працаваў як усе, а то нават шчырэй…»

Не стану далей пераказваць сюжэт апавядання. Лёс сада, як і лёс Максіма і яго жонкі Ксені, з простай жыццёвай гісторыі ператвараецца ў філасофскую прытчу без маралізатарства і дыдактыкі, але з такім глыбокім падтэкстам, што чытач міжволі задумаецца пра сваё жыццё, пра сапраўдныя каштоўнасці.

Але Стадольнік не толькі і не столькі апявальнік вёскі. Прынамсі, для яго герояў не так важныя знешнія абставіны побыту. Галоўнае — іх маральны выбар, унутраны свет, узаемаадносіны з прыродай і наваколлем, з іншымі людзьмі. Так, гераіня апавядання «Шчаслівая» — жанчына, якую герой сустракае ў электрычцы. Ёй восемдзесят пяць гадоў, яна жыве ў Мінску ў інтэрнаце, не мае дзяцей і ўнукаў, — толькі чатыры соткі зямлі ў Крыжоўцы. «Я самая шчаслівая», — заяўляе апавядальніку бабуля пад смех і адабральныя воклічы пасажыраў. І вось як заканчвае гісторыю аўтар: «Няўжо тое, што ён мае выдатную кватэру, машыну і сям'ю, прыстойную пенсію, не ёсць нейкае сапраўднае шчасце, як у гэтай бабулі?

Другая думка была яшчэ больш дзіўная. А што калі чалавецтва, каб выжыць, некалі зможа адмовіцца ад палацаў, машын, азартных відовішчаў, адурманьваючых тэлегульняў і саміх тэлевізараў і зажыве іншым шчасцем, як гэтая бабуля-прывід? Толькі б хапіла на ўсіх харчовай травы, грыбоў і іншых розных зямных прысмакаў. Толькі каб людзі не знішчылі ўсяго гэтага…»

Прызнаюся, гэтае апавяданне падказала мне тэму для штотыднёвай праграмы «Роздум» на радыё. Я вырашыў паразважаць пра тое, што такое шчасце і якім чынам яно дасягаецца для кожнага. Бо, не зрабіўшы нічога, не стварыўшы ўласны лёс, цяжка адчуць смак сапраўднага шчаслівага жыцця.

Нявыдуманыя героі і ў апавяданняў «Бортка», «Лекар», «Дзядзька Мінька», «Страляй у сэрца, Пеця». Але простыя чалавечыя гісторыі кранаюць не толькі сваёй дакументальнасцю. Праз іх мы спасцігаем жыццёвыя ісціны, яны трывожаць душу і абуджаюць думкі. І напісаныя яны мовай нібыта простай і звычайнай, але поўнай сапраўдных слоўных перлінаў. Іх нават хочацца цытаваць і выпісваць. Мова ў Стадольніка натуральная, без мудрагелістасцей і выкрунтасаў, без лінгвістычнага штукарства, але — глыбінна беларуская.

«Асветлены жыццём» — так назваў Стадольніка ў прадмове да кнігі паэт Генадзь Пашкоў. Яно, гэтае жыццё, не толькі асвятляе дарогу і лёс пісьменніка, яно стала асновай яго творчасці, прадметам роздуму і асэнсавання.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# Родны кут мілей за Галівуд!

**Юбілейная вечарына кампазітара Максіма Дунаеўскага адбылася ў Палацы Рэспублікі ў суправаджэнні Дзяржаўнага Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі на чале з Аркадзем Берыным. Віншаваць маэстра ў Беларусь прыехалі знакамітыя акцёры Міхаіл Баярскі і Дзмітрый Харацьян.**



Фота з сайта www.mail.aif.by

*Максім Дунаеўскі.*

Назву гэтаму артыкулу даў дырыжор Аркадзь Берын, калі запрашаў мяне на святочную імпрэзу. А Галівуд яшчэ раз узгадаў сам Максім Дунаеўскі падчас перапынку на рэпетыцыі. Менавіта гэтым словам адрэагаваў маэстра на маё меркаванне паводле таго, што бацька яго Ісак у 1930-я гады стварыў музычны партрэт СССР — «шчаслівай» краіны. «Абсалютна з Вамі не згодны! У нас жа ў доме былі горы пласцінак з песнямі з галівудскіх фільмаў. Тады бацька дырыжыраваў джаз-аркестрам! А мелодыя «савецкага марша» «Легко на сердце от песни весёлой» — тыповы вобраз Галівуда і Амерыкі...» І тут я падумаў з усмешкаю: «Вось з якога часу пачалося разбурэнне Савецкага Саюза: з «Весёлых ребят», «Волги-Волги»… А можа, з песень Ісака Дунаеўскага «Широка страна моя родная» ці «Летите, голуби, летите»?

«Галівуд!» — гэта слова-пячатку, як лаянку, маўляў, «не наша музыка», спрабавалі «прыклеіць» маладому Максіму — аўтару музыкі да фільма «Аўтамабіль, скрыпка і сабака Клякса» (1974). Тады кампазітара абараніў рэжысёр карціны Ралан Быкаў. Аднак Галівуд усё ж спакусіў кампазітара ў 1992 — 1997 гг., калі творца ажыццявіў спробу ўкараніцца ў славутым «кінараі». У Маскве тады не было заказаў і грошай, каб утрымліваць шыкоўную бацькаву кватэру. У той кароткі «галівудскі перыяд» пісаў музыку для кіно — прайшоў жа добрую практыку ў Саюзе з 1974-га: каля 20 фільмаў, сярод якіх «Д'Артаньян і тры мушкецёры», «Ах, вадэвіль, вадэвіль…», «Зялёны фургон», «Трэст, які лопнуў», «У пошуках капітана Гранта» ды інш. За акіянам М. Дунаеўскі спрабаваў прыстроіць свае мюзіклы, стварыў серыю песень для М. Карачанцава. Але не атрымаўся Галівуд…

І вось зноў Масква, кампазітар у роднай стыхіі. Эканамічная сітуацыя паправілася. Маскоўскія тэатры перажываюць бум: аншлагі, квіткі — за паўгода наперад. Максім Дунаеўскі піша музыку яшчэ да тузіна карцін, з апошніх — «Крывавае танга», «Амапола», «Чырвонае і чорнае». Ці не цалкам пераходзіць да жанру мюзікла. Калегі-кампазітары і публіка ўжо не гавораць «сын». Ад пачатку новага стагоддзя, пасля Амерыкі, Дунаеўскі-малодшы — сам па сабе: Максім!

Такім яго і пабачыла мінская публіка 17 сакавіка. На сцэне два юбіляры — кампазітар і дырыжор, якія нарадзіліся амаль у адзін дзень. Аркадзь Берын, нагадаем, адсвяткаваў свой юбілей 19 лютага. Ды й лёсы ў многім падобныя: абодва «стварылі сябе самі». Шлях Аркадзя Берына — ад беларускай вёскі на Гомельшчыне да славутых аркестраў Еўропы. Максім выйшаў з ценю «сына Дунаеўскага», з-пад бляску Галівуда і разгарнуўся да знакамітага кампазітара. Яго «народныя мелодыі» падпявалі ўсе тры тысячы слухачоў у зале Палаца Рэспублікі.

Засталося назваць і іншых стваральнікаў юбілейнага вечара. Гэта Вольга Сяргеева, Вольга Ажажа, Мухамед Абдэль Фатах, Антон Арцаў ды многія іншыя. І зусім як гімн любові — фінальная песня «Ах, этот вечер!», якую разам з юбілярамі спявала зала.

**Данат ЯКАНЮК**

*ЛіМаняцці*

# Сузор'е талентаў

**«Узорная». Гэта званне было прысвоена дзіцячай вакальнай студыі «Мікс» па выніках канцэрта «Сузор'е талентаў» у Маладзёжным тэатры эстрады.**

Падчас імпрэзы прагучалі песні ў выкананні лепшых выхаванцаў студыі: лаўрэатаў міжнародных конкурсаў «Славянскі базар у Віцебску», «Залатая пчолка» (г. Клімавічы), «Зямля пад белымі крыламі» (г. Мазыр), «Дыямент Карпат» (г. Ярэмчэ, Украіна), «Планета шчасця» (Балгарыя), «Вясновы зарапад» (Польшча) і іншых. Праграму склалі вядомыя сусветныя хіты, песні беларускіх аўтараў, народныя, дзіцячыя ў выкананні не толькі салістаў, але і ансамбляў.

— Вакальная студыя «Мікс» была створана ў 2007 годзе з вучняў 1-2 класаў. Сёння калектыў складаецца з больш як 30 чалавек узросту 5 — 16 гадоў — навучэнцаў сярэдняй школы № 161, а таксама іншых вучэбных устаноў Мінска, — распавяла мастацкі кіраўнік калектыву Ірына Раманоўская. — Вакалісты студыі спяваюць у групах і індывідуальна: займаюцца пастаноўкай голасу, удасканальваюць сцэнічнае майстэрства, выступаюць на канцэртных і конкурсных пляцоўках. Дзеці цікавяцца рознымі вакальнымі стылямі і жанрамі. Гэта народныя і эстрадныя песні, рэп і джаз! Таму і назва студыі — «Мікс». У перакладзе з англійскай мовы — «змешваць, злучаць, камбінаваць». Кожны шукае свой вобраз, стыль і манеру выканання. Таму ў калектыве сфарміраваліся два напрамкі вакальнай творчасці: эстрадны і народны.

Студыя мае абсталяванне і памяшканне для заняткаў вакалам, актавую залу для рэпетыцый і выступленняў. Адміністрацыя школы дапамагае ў арганізацыі працы і адпачынку хлопчыкаў ды дзяўчынак.

Удзельнікі студыі імкнуцца да новых форм раскрыцця талентаў. Так, у снежні 2014 года адбыўся музычны спектакль «Навагодні кастынг зімачкі-зімы», дзе навучэнцы паспрабавалі свае сілы не толькі ў якасці выканаўцаў, але і акцёраў.

Творчы рух студыі падтрымліваюць многія беларускія аўтары: кампазітары, паэты, аранжыроўшчыкі. Так, кампазітар Таццяна Шурынава напісала песню-візітоўку «Зорны дождж», на якую пасля быў зняты кліп. Добра вядомыя песні кампазітара Анастасіі Марчук «Я ведаю, кім стану», «Песня пра маці», «Рамонкі», «На крылах песні». А яе «Песня пра школу» стала гімнам сярэдняй школы № 161. Уладзімір Сукалінскі прапанаваў прыгожыя дзіцячыя песні: «Сонечны зайчык», «Дожджык», «Вяснушкі», «Вясёлка». Таццяна Атрошанка напісала кампазіцыю «Паглядзі навокал». На «Песенку пра эльфаў» Руслана Платкова быў запісаны кліп для ўдзелу ў тэлевізійным праекце «Наша пяцёрачка». Да слова, не аднойчы кліпы студыі ўзнімаліся на першае месца хіт-параду дзіцячых песень.

Аранжыроўкі да беларускіх народных песень ствараюць для студыі «Мікс» Уладзімір Курловіч, Руслан Платкоў і Сяргей Талкуноў. Усе кампазіцыі гэтых аўтараў увайшлі ў першы аўдыяальбом студыі «Зорны дождж», прэзентацыя якога адбылася ў 2012 годзе.

Салісты вакальнай студыі «Мікс» — частыя госці Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё: удзельнікі праграм «Музычная гасцёўня», «Мэры Попінс». За перыяд існавання калектыў атрымаў шмат узнагарод у гарадскіх, рэспубліканскіх і міжнародных фестывалях ды конкурсах.

**Таццяна ШЧЭРБА**

*Вернісаж*

# Радасць вясны ды музыкі

**Канцэрт-прэзентацыя зборнікаў для фартэпіяна вядомага беларускага кампазітара Аліны Безенсон адбыўся ў малой зале Рыгора Шырмы Беларускай дзяржаўнай філармоніі.**

Прадстаўленая праграма «Вясна радуецца» складалася з лірычных і экспрэсіўных інтанацый у выкананні лаўрэатаў і дыпламантаў міжнародных конкурсаў — вучняў дзіцячых музычна-мастацкіх школ мастацтваў №№ 1, 15, 16, сталічнай гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. Ахрэмчыка.



*Ларыса Зарубіна «Дарога да храма».*



*Ларыса Зарубіна.*

Лірычны настрой у святочную атмасферу малой залы Р. Шырмы прыўнесла і персанальная выстаўка вядомай беларускай мастачкі Ларысы Зарубінай. Ларыса Іванаўна — актыўны ўдзельнік мастацкіх экспазіцый як за мяжой — у Германіі, Францыі, так і ў Беларусі — у Музейным комплексе «Мірскі замак», Музеі гісторыі горада Мінска, Міжнародным фестывалі пейзажа імя В. Цвіркі ды інш. Карціны творцы, напісаныя з натуры ў стылі імпрэсіянізму, перадаюць яе асабістыя адчуванні, унутраны свет. Прадстаўлены праект Ларыса Зарубіна назвала «Поры года»: работы «Вязынка ў маі», «Лагойскі матыў», «На блакітным возеры» ды інш. Некалькі карцін былі напісаны спецыяльна для канцэрта-прэзентацыі: «Дарога да храма», «Вясна радуецца», «Гімн прабуджэнню».

Лясы, паркі, алеі, адным словам месцы, дзе можна сустрэцца з прыродай — усё гэта адлюстравана на карцінах Л. Зарубінай. Мастачка працуе шырокім пэндзлем, мастахінам, мадэлюючы прастору («Сады Заслаўя», «Запрашэнне на баль», «Сілуэты мінулага»). Колер на яе карцінах не проста тлумачыць адлюстраванае, — ён становіцца сэнсавай дамінантай, адным з галоўных сродкаў выразнасці, з дапамогай якога творца ўвасабляе асабістае адчуванне гармоніі.

**Галіна ФАТЫХАВА**





**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

*Фестывалі*

# Чароўны свет батлейкі



*Юныя гледачы знаёмяцца з батлеечнымі лялькамі.*

**Першы ў Беларусі адкрыты рэгіянальны фестываль батлеечных калектываў прайшоў у Смаргоні. Яго арганізатарамі выступілі Смаргонскі райвыканкам і мясцовы дабрачынны фонд «Паўночныя Афіны М. К. Агінскага». Адзінаццаць удзельнікаў яркай імпрэзы прадставілі разнапланавыя п'есы: ад містэрыяльнай драмы да камічных сцэнак і казак.**

Распачаў конкурсную праграму сямейны тэатр «Батлейка» з Мінска п'есай Георгія Юдзіна «Божая іскра» пра тое, як Маці Божая ратавала грэшнікаў. Выступленне сямейнага тэатра адзначана прызам у намінацыі «За адраджэнне духоўных каштоўнасцей».

Званне «Батлейка-хіт» атрымаў лялечны тэатр Смаргонскага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі, а Гран-пры — удзельнікі народнага тэатра «Батлейка» з Залесся. У юбілейны год вядомага кампазітара і палітычнага дзеяча Міхала Клеафаса Агінскага кіраўнік тэатра Таццяна Нясцюрына напісала і з дапамогай сваіх артыстаў увасобіла п'есу «Жыццё ў гуках паланэза». Цікавая рэжысура, музычная афарбоўка, прыгожыя лялькі і арыгінальная скрынка-батлейка, што нагадвае макет палаца Агінскага ў Залессі, — усё гэта стварыла цэласную яркую карціну эпохі паланэзаў, каралёў, вытанчанага мастацтва.

Лаўрэат шматлікіх конкурсаў, удзельнік фэстаў і тэатральных марафонаў тэатр батлейкі са Стаўбцоўскага раёна пацвердзіў агучаны ў прэамбуле лозунг «А батлейка з Дзераўнога вам пакажа цудаў многа!» П'есу-казку «Жылі-былі» журы адзначыла прызам у намінацыі «За яскравае ўвасабленне беларускіх казак». П'еса «Нябесны госць», прадстаўленая выхаванцамі нядзельнай школы Стаўбцоўскага храма Уваскрашэння Хрыстова, адзначаная ў намінацыі «За арыгінальнасць сюжэтнай лініі». Лепшым музычным афармленнем вылучалася пастаноўка «Камаедзіца» Докшыцкай батлейкі Патупчыка.

Лідскі раённы цэнтр рамёстваў падрыхтаваў арыгінальнае інтэрактыўнае прадстаўленне «Вясновая песня» — сапраўдны падарунак для аматараў і прыхільнікаў батлеечнага мастацтва. У пошуках найцудоўнейшай ружы для каралевы ўдзельнікі студэнцкага тэатра «Адраджэнне батлейкі» падаравалі гледачам шмат прыемных імгненняў.

Класікай можна без сумневу назваць лялечныя пастаноўкі магілёўскіх артыстаў тэатра «Шчодра». У 2007 г. у мастацкім музеі імя П. Масленікава была выраблена копія сапраўднай старажытнай магілёўскай батлейкі, арыгінал якой цяпер захоўваецца ў Дзяржаўным музеі этнаграфіі ў Санкт-Пецярбургу. Арыгінальнасцю вылучаліся і народныя строі, адмыслова пашытыя па ўзорах нацыянальнага касцюма Магілёўскай губерні. Магілёўчане прадставілі класічныя батлеечныя п'есы і прэм'еру сучаснай інтэрмедыі «Прыгоды Зорыча».

У намінацыі «За лепшае сцэнічнае ўвасабленне патрыятычнай тэматыкі» перамагла тэатральная студыя «Вера. Надзея. Любоў» СШ № 16 г. Ліды за спектакль «Як гусь і Пятрусь ратавалі Беларусь».

**Ала СТРАШЫНСКАЯ, фота аўтара**

# Зазірнуць у старажытнасць

Выстаўка «Новыя паступленні прадметаў археалогіі» ў Гомельскім палацава-паркавым ансамблі прадстаўляе старажытныя артэфакты, якія знаёмяць з гісторыяй Гомельшчыны. Ёсць тут і ўнікальны рыбалоўны кручок бронзавага стагоддзя, і жалезная зброя, і вырабы старажытных майстроў-ювеліраў.

Вельмі дапамагаюць музейшчыкам археолагі, якія перадаюць рарытэты, знойдзеныя падчас раскопак на тэрыторыі вобласці. Акрамя таго, установа імкнецца набыць каштоўныя прадметы ў прыватных уладальнікаў.

Нямала людзей дораць музею каштоўныя рэчы, якія выпадкова трапілі да іх. Так, калекцыянер Валерый Окунеў перадаў установе збор археалагічных прадметаў, значная частка якіх адносіцца да старажытных часоў.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Полацк прыфрантавы

З нагоды 100-годдзя пачатку Вялікай вайны краязнаўчы музей, філіял Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка, выращыў правесці даследчую, прэзентацыйную і папулярызатарскую работу па гэтай тэме.

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі супрацоўнікі музея даследавалі дакументы з фондаў канцылярыі Віцебскага губернатара і Віцебскага губернскага праўлення, Полацкай гарадской і земскай управ, Віцебскай інспекцыі народных вучылішчаў. Знойдзеныя матэрыялы дапоўнілі небагатыя звесткі пра асобныя аспекты жыцця прыфрантавога Полацка, якія даюць уяўленне пра дзейнасць дзяржаўных, грамадскіх, армейскіх устаноў і арганізацый, размешчаных на тэрыторыі аднаго з тылавых цэнтраў Дзвінскай ваеннай акругі.

Сярод прааналізаваных дакументаў — цыркуляры, рапарты, лісты, распараджэнні, спісы ды іншыя пісьмовыя крыніцы. Дзякуючы ім мы ведаем сёння пра размяшчэнне ў Полацку шпіталяў абшчыны Святога Георгія, Усерасійскага саюза гарадоў, Усерасійскага земскага саюза, арганізацыі «Северопомощь» і інш. Так, шпіталі і лазарэты займалі пабудовы адміністрацыйных і навучальных устаноў, манастыроў і бальніц. Сярод абслугоўваючага персаналу было шмат высокаадукаваных практыкуючых урачоў: Л. Іваноўскі, А. Паўлаў, М. Сырэнскі… Для бежанцаў былі адкрыты харчавальныя пункты, склады цёплага адзення, спажывецкія лаўкі, школы. Упаўнаважаным шматлікіх грамадскіх арганізацый па горадзе і павеце быў паветовы прадвадзіцель дваранства А. Вырубаў, муж былой фрэйліны рускай імператрыцы Аляксандры Фёдараўны. У гады вайны ў горадзе было шмат не толькі медыцынскіх устаноў, але і майстэрань па рамонце тэхнікі. На ўскраіне Полацка працаваў ваенны аэрадром, праз горад праклалі вузкакалейкі.

Строга сачылі і за санітарным станам. Вядома, што ўладальнікаў заводаў каралі за дрэнныя ўмовы ўтрымання памяшканняў і невыкананне распараджэнняў санітарных камісій. Сярод рабочых праводзілі вялікую тлумачальную работу, арганізоўвалі гігіенічныя выстаўкі. Шмат матэрыялаў датычыць дзейнасці полацкай чыгункі. Неаднаразова ў дакументах звярталася ўвага на адкрыццё і ўтрыманне на станцыях лазарэтаў і пунктаў харчавання для бежанцаў, пастаянна складаліся спісы атручаных газамі дэзерціраў.

Новыя архіўныя матэрыялы дазволілі навуковым супрацоўнікам распрацаваць музейна-педагагічныя заняткі для вучняў старэйшых класаў, якія наведалі каля дзесятка груп, падрыхтаваць некалькі дакладаў і ўзяць удзел у чатырох навуковых канферэнцыях.

З нагоды 100-годдзя пачатку Першай сусветнай вайны ўвесь 2014 год у краязнаўчым музеі рэалізоўваліся цікавыя выставачныя праекты. Так, з Брэстчыны была прывезена выстаўка «На Заходнім фронце без змен», якую за 2 месяцы наведала больш як 700 чалавек. У лістападзе-снежні 2014 года працавала выстаўка «Я — шлях, якому век няма спакою...» Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Палачане і госці горада змаглі пабачыць унікальныя фотаматэрыялы часоў Першай сусветнай вайны, калі лёс закінуў класіка беларускай літаратуры Янку Купалу ў Полацк, дзе ён служыў у дарожна-будаўнічым батальёне Варшаўскай акругі шляхоў зносін. Да выстаўкі, якую наведала амаль 800 чалавек, быў падрыхтаваны відэафільм пра жыццё і дзейнасць Купалы на Полаччыне, яго цеснае знаёмства з некаторымі жыхарамі Паўночнай Беларусі, пра цыкл вершаў, прысвечаных падзеям Першай сусветнай вайны і сувязь беларускага песняра з Полацкам у другой палове XX ст.

**Ірына ВОДНЕВА**

*Фотапозірк*





*Амаль два гады таму, падчас святкавання ў пачатку ліпеня вызвалення Брэста ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, на вуліцы Гогаля з'явілася алея з 30 каваных ліхтароў. Назва кожнага з прадпрыемстваў і імёны прадпрымальнікаў Брэстчыны, якія пажадалі ўдзельнічаць у гэтым цікавым праекце, ушанаваны на зорцы, размешчанай у падножжы ліхтара. Яны розныя і ў большасці адлюстроўваюць дзейнасць канкрэтнага прадпрыемства. Летась тут усталявалі яшчэ 11 скульптурных кампазіцый (цяпер іх 41).*

**Раіса МАРЧУК, фота аўтара**

*Да 70-годдзя Вялікай Перамогі*

# Стваральнік абароннай справы

Перамога над нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікай Айчыннай вайне, увогуле ў Другой сусветнай вайне ў многім здзейснілася дзякуючы самаахвярнай працы савецкага народа ў тыле. Рабочыя ўральскіх, сібірскіх, сярэднеазіяцкіх заводаў і фабрык працавалі з той жа настойлівасцю, мужнасцю, з якой салдаты грамілі фашыстаў на перадавой.

Сярод арганізатараў, кіраўнікоў абароннай прамысловасці было нямала ўраджэнцаў Беларусі. Адзін з вартых гістарычнай памяці персанажаў — Абрам Ісаевіч Быхаўскі, які з'явіўся на свет у 1895 годзе ў мястэчку Дуброўна. Сёлета 120 гадоў з дня нараджэння нашага земляка. І самая што ні на ёсць нагода ўзгадаць яркую асобу.

У 1924 годзе Абрам Быхаўскі закончыў Маскоўскі хіміка-тэхналагічны інстытут — вядомую па тым часе ўстанову. У 1929 — 1934 гг. наш зямляк загадваў інструментальнай вытворчасцю, быў намеснікам дырэктара Іжэўскага завода зброі. У 1939 — 1952 гг. А. Быхаўскі — дырэктар Матавіліхінскага машынабудаўнічага прадпрыемства (Пермская вобласць). Варта нагадаць, што яшчэ ў 1736 г. у Пермскім краі была заснавана меднаплавільная вытворчасць. З таго часу і вядзецца адлік збройнай кампаніі «Матавіліхінскія заводы». Менавіта тут у 1970 — 1980-я гады вырабляліся артылерыйскія гарматы — 120-мм гармата 2Б16, 152-мм гармата 2А36 «Гіцыянт», а яшчэ 152-мм гармата-гаўбіца Д-20 (яна добра зарэкамендавала сябе падчас вайнаў у В'етнаме, Афганістане, Егіпце. Ля вытокаў гэтай вытворчасці — Абрам Быхаўскі. Адзнакамі яго выключнай працаздольнасці сталі высокія ўзнагароды. У 1942-м генерал-маёру Быхаўскаму было прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. Сярод іншых узнагарод — тры ордэны Леніна (1939, 1942, 1944), ордэн Суворава І ступені, Айчыннай вайны І ступені, Працоўнага Чырвонага Сцяга, «Знак Пашаны», медалі. Абрама Ісаевіча выбіралі дэпутатам Вярхоўнага Савета РСФСР 2-га склікання (1947), Вярхоўнага Савета Удмурцкай АССР 1-га склікання (1938).

З Пярмі нашага зямляка перавялі ў Падмаскоўе, дзе ён таксама працаваў дырэктарам завода. А ў 1955 г. Абрам Быхаўскі выйшаў у адстаўку. Памёр у 1972 г. і пахаваны на Новадзявочых могілках у Маскве. Там, дарэчы, дзе ў розных кутках старажытнага пантэона размешчаны і захаваны іншых ураджэнцаў Беларусі — партыйнага дзеяча Уладзіміра Бровікава (нарадзіўся ў Ветцы), славутага мастака Вітольда Бялыніцкага-Бірулі (нарадзіўся ў сядзібе Крынкі на Магілёўшчыне), дзяржаўнага дзеяча Аркадзя Вольскага (нарадзіўся ў Добрушы), кінааператара Аляксандра Гінцбурга (нарадзіўся ў Рагачове), легендарнага фізіка Якава Зельдовіча (нарадзіўся ў Мінску) і шмат каго яшчэ.

**Сяргей ШЫЧКО**

# Вайна і акварэль

Да ўгодкаў Вялікай Перамогі музей Гомельскага палацава-паркавага ансамбля знаёміць наведвальнікаў з творчасцю мастакоў — удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Адкрывае праект выстаўка «Акварэль і графіка Цімафея Карлова».

Дзіцячыя і юнацкія гады мастака прайшлі на малой радзіме — у Пестраўскім раёне Куйбышаўскай вобласці (Расія). У 1937 годзе Цімафей Карлаў служыў у войску ў Віцебску. Закончыў 1-е Ленінградскае авіятэхнічнае вучылішча імя К. Я. Варашылава, зноў трапіў у Беларусь, у Бабруйск. У пачатку вайны браў удзел у баях пад Гроднам у складзе 122-га знішчальнага авіяпалка. Змагаўся з ворагам пад Масквой, на Курскай дузе, вызваляў Беларусь падчас аперацыі «Баграціён»… Закончыў вайну ў Берліне. За баявыя заслугі і выдатную службу атрымаў шмат урадавых узнагарод. Нават на вайне не пакідаў любімай справы — малявання… З 1967-га жыццё мастака было звязана з Гомелем, а ўжо праз год тут адбылася яго персанальная выстаўка.

У фондах музея захоўваецца каля 60 твораў аўтара, а таксама дакументы, якія распавядаюць пра яго. Мастак быў удзельнікам шматлікіх абласных, рэспубліканскіх і ўсесаюзных выставак. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Барыс Звінагродскі пісаў пра работы Цімафея Карлова: «Яго пейзажы пазбаўленыя вонкавых эфектаў. Яны праўдзівыя і шчырыя, адрозніваюцца сціпласцю і любоўнай уважлівасцю да жыцця, да прыроды, яны не ствараюць уражання пустэльнасці і бязлюднасці... Яго пейзажы сучасныя не толькі па матывах, але і па настрої...» Сведчаннем таму — выстаўка ў Гомелі.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Навучыць маладых

Зборнік навуковых артыкулаў студэнтаў, магістрантаў, аспірантаў, прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі, выдадуць у Беларускім дзяржаўным універсітэце. Аўтары публікацый — маладыя вучоныя айчынных ВНУ.

Выданне — добрая альтэрнатыва для тых, хто толькі пачынае свой шлях у навуку. Зборніку прысвоены міжнародны нумар ISSN, што забяспечвае абавязковую яго рассылку па асноўных рэспубліканскіх бібліятэках. Ініцыяваў выпуск навуковы студэнцкі савет факультэта міжнародных адносін БДУ пад эгідай дэкана гэтага факультэта Віктара Шадурскага. Плануецца, што выданне пабачыць свет напрыканцы чэрвеня.

* * *

Міжнародны расійска-беларускі конкурс студэнцкіх навуковых прац па гісторыі «Агульны шлях да Вялікай Перамогі: да 70-годдзя заканчэння Вялікай Айчыннай вайны» пройдзе ў Белдзяржуніверсітэце. Ініцыятыва правядзення творчага спаборніцтва належыць дэканам гістарычных факультэтаў БДУ і МДУ імя М. В. Ламаносава — адпаведна Сяргею Ходзіну і Сяргею Карпаву.

Інтэлектуальнае спаборніцтва мае на мэце стымуляванне навукова-даследчай актыўнасці студэнтаў дзвюх прэстыжных ВНУ Беларусі і Расіі, папулярызацыю гістарычных ведаў, а таксама пашырэнне цікавасці да агульнай расійска-беларускай гістарычнай спадчыны.

Даследаванні могуць быць выкананыя індывідуальна або ў суаўтарстве (не больш як тры чалавекі). Назва конкурсу не абмяжоўвае выбар тэматыкі. Галоўнае — падкрэсліць значэнне Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі для абедзвюх дзяржаў. Прыём прац падоўжаны да 20 красавіка. Аўтары лепшых навуковых матэрыялаў будуць запрошаны на іх публічную абарону, якая адбудзецца 15 ліпеня на гістарычным факультэце МДУ.

**Раіса МАРЧУК**

# Апаленае дзяцінства

Жыццё склалася так, што я рэдка выходжу з кватэры на вуліцу. Але, як крыху пацяплела, вырашыла пасядзець на лавачцы. Неспадзеўку сустрэла суседку Еўдакію Барысаўну Патаповіч, з якой сябруем. Жанчыне ўжо пад восемдзесят. У размове закранулі тэму вайны. Запытала пра яе дзяцінства. Барысаўна цяжка ўздыхнула, і ажылі ўспаміны…

— Было мне пяць гадоў, калі прыйшлі немцы, — пачала яна свой расповед. — Жылі мы тады на Лепельшчыне, у вёсцы Стараселле, якая тулілася да самага лесу. У сям'і нас было двое: я і старэйшая сястра Люба. Бацька з самага пачатку вайны пайшоў у партызаны. Вельмі хваляваўся за нас: калі немцы даведаюцца, дзе ён, сям'ю не пашкадуюць. Таму праз нейкі час падаліся ў лес і мы.

Немцы ведалі пра атрад. Нечакана наляцелі, як зграя, акружылі лагер з усіх бакоў. Над лесам кружылі самалёты з чорнымі крыжамі — ды так нізка, што, здавалася, вось-вось зачэпяць вершаліны дрэў. На зямлю ляцелі бомбы, сеялі смерць...

Бацька забег у зямлянку і сказаў: «Усё, даражэнькія, будзем развітвацца. Ідзём на прарыў. А вы заставайцеся ў зямлянцы». Маці прытуліла нас да сябе, заплакала: «Божухна, што ж будзе з намі: ні хаты, ні гаспадаркі, ні гаспадара? Куды галаву прыхіліць?»

Мала хто застаўся жывым у той прарыў... Большасць палеглі... Немцы выгналі нас з зямлянкі, паставілі ў адзін рад і пагналі... Куды — невядома. Ішлі доўга. Нарэшце спыніліся. Пачалася сарціроўка. Любу, ёй было 14 гадоў, — улева, маці — управа, а мяне немец выхапіў з рук маці і хацеў закінуць у вялікую машыну. Маці ўпала на калені і пачала прасіць яго: «Паночку, у яе тыф, тыф!» Немец зразумеў яе словы і грэбліва кінуў мяне аб зямлю. Маці тут жа падхапіла сваё дзіця і кінулася ў натоўп.

Зноў доўга ішлі. Маці плакала па Любе, моцна прытуляючы мяне да сябе. Вельмі хацела піць...

Нарэшце прыгналі ў незнаёмую вёску, сагналі ў вялікую хату. «Паліць будуць! Жывымі!» — пранеслася ў натоўпе. Адны галасілі, другія безнадзейна плакалі. Маці ўвесь час малілася. Прайшла гадзіна, мо больш. Прыслухаліся — вакол хаты цішыня, не чуваць гергетання немцаў. Мужчыны штурхнулі дзверы... А яны былі і незамкнёныя...

Вярнуліся ў родную вёску, але яна згарэла. А вось наша хата засталася. Вайна вайной, а жыць трэба...

Маці пайшла працаваць у калгас. Радаваліся, калі дамоў прыйшла Люба. Немцы прымусілі яе капаць акопы, але яна змагла збегчы. Бацька трапіў у палон. Вярнуўся без нагі і рукі.

Добра памятаю дзень Перамогі. Людзі плакалі, цалаваліся. Я таксама плакала...

**Ганна ПРЫЁМКА**



Фота Паўла Цыбіна

Уладальніца Гран-пры Таццяна Пенкрат.

# Цуды з паперы

На IV рэгіянальнае свята-конкурс выцінанкі «Папяровыя карункі» з'ехалася 38 майстроў з розных куточкаў Міншчыны.

Выцінанка, мастацтва выразання ўзораў з паперы, апошнім часам набывае ўсё большую папулярнасць. Святам паперы, нажніц і чалавечых рук назваў гэтае творчае спаборніцтва начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама Аляксандр Рамановіч. Першай часткай конкурсу стала выстаўка «хатніх калекцый» удзельнікаў, другая ж уяўляла сабою адкрытае спаборніцтва ў выкананні папярэдне прадуманага твора. Адметна, што фантазія ўдзельнікаў не абмяжоўвалася адно традыцыйнай выцінанкай.

Ацэньвала работы кампетэнтнае журы на чале з доктарам мастацтвазнаўства, прафесарам, старшынёй Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Яўгенам Сахутам. «Гэта не толькі конкурс, але і сустрэча з калегамі, новыя знаёмствы, абмен досведам», — падкрэсліў Яўген Міхайлавіч.

Між членаў журы — Лізавета Чырвонцава, загадчык аддзела дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Маладзечанскага дзяржаўнага музычнага каледжа імя М. К. Агінскага, дачка пачынальніцы айчыннай школы выцінанкі Вікторыі Чырвонцавай. У канцы 1980-х Вікторыя Мікітаўна, якая з дзяцінства палюбіла мастацтва выразання з паперы, фактычна заклала дэкаратыўна-прыкладны кірунак у маладзечанскай мастацкай школе, пазней — у Маладзечанскім дзяржаўным музычным каледжы імя М. К. Агінскага. Сёння выцінанкай займаецца сама Лізавета, яе сястра, іх дзеці. Л. Чырвонцава — выпускніца факультэта народных рамёстваў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

Гран-пры конкурсу атрымала прадстаўніца Чэрвеньскага раёна Таццяна Пенкрат. Самая сталая ўдзельніца «Папяровых карункаў» — жыхарка сталіцы Валянціна Слюнчанка, а самая юная — 6-гадовая Мілана Рэут з Валожынскага раёна. Дарэчы, яе маці, Наталля Рэут, таксама канкурсантка, прызнаная лаўрэатам у намінацыі «За лаканізм і выразнасць мастацкай мовы». Першае месца ў гэтай жа намінацыі дасталася Але Бажко з Маладзечаншчыны. З лепшай калекцыяй хатніх работ перамагла Ксенія Альфер з Вілейскага раёна, за высокае прафесійнае майстэрства і мастацкі густ дыпломам І ступені ўганаравана Вольга Сарока з Маладзечанскага раёна, а за творчае развіццё мастацкіх традыцый і адаптацыю выцінанкі да сучаснага асяродку — жыхарка Вілейшчыны Вольга Іваненка… Усяго пераможцы і лаўрэаты вылучаны ў больш як 10 намінацыях.

Паводле Я. Сахуты, любая традыцыя мае працяг тады, калі ёсць каму яе развіваць. І спаборніцтва сапраўды паказала: майстэрства выцінанкі ў нашай краіне жыве і ўдасканальваецца.

**Яна ЯВІЧ**

# Першая прыступка?

**Выстаўка «Ступені», арганізаваная Беларускім дзяржаўным універсітэтам культуры і мастацтваў сумесна з Беларускім грамадскім аб'яднаннем «Фотамастацтва», працуе ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры».**

Куратары Марына Бацюкова і Міхаіл Гарус прапанавалі ўдзельнікам прадставіць не адзін-два здымкі, а серыю фотаработ: такі падыход, на іх думку, дапаможа гледачу лепш ацаніць індывідуальны почырк і стыль кожнага з фатографаў.

— Летась у наша аб'яднанне ўступілі некалькі цікавых фатографаў, іх творчасць заслугоўвае самай пільнай увагі, таму выстаўка — выдатная магчымасць пазнаёміць з імі гледача, — распавяла намеснік старшыні БГА «Фотамастацтва» Марына Бацюкова. — Маладыя фатографы куды больш, чым сталыя фотамайстры, маюць патрэбу ў прадстаўленні асабістых работ публіцы. Але часам у іх няма магчымасці прасоўваць сябе і ўласную творчасць, а часцей яны проста не ведаюць, з чаго пачаць. І выстаўка, безумоўна, добры старт. Важная акалічнасць: новыя сябры творчага саюза ў фатаграфіі зусім не пачаткоўцы. Некаторыя з іх ужо даволі вядомыя фотамайстры.

Так, Андрэй Дубінін дэманструе гледачам серыю «Пад месяцам». Андрэй Васкрасенскі прадстаўляе серыі «Секцыя» і «Нацюрморты», выкананыя ў тэхніцы «гуміарабік» (у перакладзе «смала арабскай акацыі») — складаны і працаёмкі фатаграфічны працэс, папулярны ў фатографаў канца XIX — пачатку XX стагоддзя. У Польшчы «гуміарабік» называюць «тэхнікай шляхетнай», у Расіі адносяць да «высакародных метадаў друку».



Людміла Сідзенка «Цішыня ў квадраце».

«Сны пратаганіста» Віктара Сянькова — серыя чорна-белых фотаздымкаў, выкананых спосабам цыянатапіі — манахромнага фатаграфічнага друку, які дае адбітак блакітанага адцення.

Фатаграфічны праект «The orbit Of Venus» Яўгеніі Мужавай — спроба адказаць на пытанне, што такое прыгажосць. Мастачка разважае: «Багіню Венеру заўсёды апявалі як апякунку харства і кахання. З іншага боку, планета Венера настолькі жудасная і непрыдатная да жыцця, што ўсё жывое там загінула. Сімбіёз жаночай прыгажосці і яе разбуральная моц заўсёды будуць аб'ектам даследаванняў».

«Дзеці ў спорце» Ірыны Дайнаковай — дакументальны фотапраект пра выхаванцаў спартыўных секцый, якія ўжо ведаюць, што спорт — цяжкая праца. Але ёсць і адваротны бок медаля: вострае, яркае пачуццё радасці і задавальнення ад паспяховага выканання элемента, перамогі. У фотапраекце — выявы трэніровак па спартыўнай гімнастыцы, акрабатыцы, плаванні, фігурным катанні, мотакросе, баскетболе.

Серыя работ Людмілы Сідзенка мае назву «Цішыня ў квадраце». Слова «квадрат» сімвалізуе не толькі фармат фотаздымкаў, квадрат — гэта яшчэ і два палярныя станы, якія заўсёды прысутныя ў жыцці: сум і радасць, ноч і дзень, любоў і страх.



Андрэй Васкрасенскі. Серыя «Нацюрморты».

Фотаздымкі Марыі Банэ аб'яднаны ў серыю «Сустрэча» і адлюстроўваюць чалавечыя перажыванні. Работы выкананы ў тэхніцы «гуміарабік».

Серыя Вольгі Сяргеевай «На Петраградскім баку» выканана ў тэхніцы «срэбраны адбітак, алей» і ўваходзіць у цыкл «Перавыдадзеныя карцінкі». Апошні ўключае работы 2011 — 2014 гг., знятыя ў розных мясцінах, аб'яднаныя ідэяй перасячэння, узаемапранікнення розных культурных і часавых пластоў.

Праект Паўла Осіпава «Social Landscapes» — гэта візуальнае даследаванне межаў ландшафту, пошук у ім прыроднага і чалавечага пачатку.

**Ганна ШЫМУК**

# Колеры вясны

**Адчуць надыход самай чаканай пары года запрашае сталічная «Галерэя Мастацтва». Тут адкрылася персанальная выстаўка жывапісу Васіля Пешкуна.**

Экспазіцыю склалі карціны, створаныя цягам апошніх гадоў. Цёплыя і сонечныя, работы аб'яднаныя тэмай вясны. Аўтар паказаў абуджэнне прыроды пасля зімовых халадоў, таму на выстаўцы шырока прадстаўленыя нацюрморты з кветкамі. А таксама — пейзажы, розныя па сюжэтах і настроях. На адных — вуліцы, алеі ды паркі Мінска, іншыя прысвечаныя вясковым мясцінам.

Васіль Пяшкун піша выключна з натуры. Карціны стварае амаль імгненна, у мімалётным парыве. Сярод настаўнікаў аўтар вылучае французскіх імпрэсіяністаў і таму надае вялікую ўвагу святлу. Яго палотны напоўнены паветрам і таямнічым серабрыстым свячэннем. Мастак здольны бачыць харство нават у шэрай штодзённасці.

**Ганна ПАЛЯКОВА**



# Балтыйскага мора перліна



Фота Кастуся Дробава

Лайма Бендратэ, Рыхардс Бендратс. Брошка. 1973 г.

Мінск стаў першым горадам у еўрапейскім турнэ выстаўкі «Бурштын — каштоўны камень Балтыйскага мора» Нацыянальнага музея гісторыі Латвіі.

Экспазіцыя адкрылася ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі. «Для нас гэта выстаўка асаблівая: адзін з самых паспяховых праектаў у праграме горада Рыгі як культурнай сталіцы Еўропы «Рыга — 2014», — падкрэсліў пасол Латвіі ў Беларусі Міхаілс Папкоус. — Своеасаблівы тэматычны распавед пра Балтыйскае мора, скрыжаванне шляхоў бурштыну, яго ролю ў латышскім мастацтве».

На выстаўцы прадстаўлены ўпрыгажэнні і строі: унікальная рэканструкцыя касцюма з могільніка Звейніеку з больш як сотняй бурштынавых прадметаў, латышскі народны касцюм, сучасны касцюм з бурштынавымі аздабленнямі народнага прыкладнога мастацтва, характэрнымі для другой паловы XX стагоддзя. Фібулы, гузікі, каралі, падвескі, кулоны — усё гэта адлюстроўвае гісторыю бурштыну ад старажытных часоў і па сёння.

З дапамогай мультымедыйных сродкаў на выстаўцы можна пазнаёміцца з унікальнымі экспанатамі: фігуркай галавы лася (3400 — 2300 гадоў да н. э.) і зааморфнай фігуральнай падвескай (2900 — 1800 гадоў да н. э.).

Паводле дырэктара ўстановы Алега Рыжкова, усе экспанаты — музейныя, што бывае даволі рэдка.

Выстаўка «Бурштын — каштоўны камень Балтыйскага мора» будзе працаваць у Нацыянальным гістарычным музеі да 24 красавіка.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом “Звязда”»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом “Звязда”».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. С. Мастоўскі

Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар: Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 09.04.2015 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 2229.

Кошт у розніцу — 3600 рублёў

Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1466 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12